*Замест прадмовы*

## С-с-с-о-о-о-н-н-н

Учора мне прысніўся сон: мы разам з Ду Фу ідзём у госці да Лі Бо. Мажліва, на дзень нараджэння, а мажліва, і проста так, па-сяброўску.

У Ду Фу ў руцэ скрутак з апошнімі вершамі, сярод якіх і прысвячэнне Лі Бо. Аднак мы гаворым пра мае вершы. Ду Фу не падабаецца, што шмат у іх тэхнікі — самалёты, аўтамашыны, ракеты, цягнікі... і мала жывой прыроды. Шмат перажыванняў, ды мала думак.

Я з ім пагаджаюся. Самалёты, цягнікі — гэта ўсё, безумоўна, другаснае. Яно не павінна заўважацца, не павінна вытыркацца, а тым больш назаляць. «Але я чалавек свайго часу, — апраўдваюся я, — і пішу пра тое, чым жыву, што бачу, што мяне акаляе. У маім горадзе бегаюць не рыкшы, а таксоўкі. І я пішу пра іх...»

Ду Фу пасміхаецца ў сваю рэдзенькую бародку, гледзячы ці то на мяне, ці то некуды далей — туды, дзе па рэйках лёгка імчыць цягнік з паўсотняй вагонаў.

«А ведаеш, — кажа ён раптам, — не слухай ты мяне. Паэтычным можа быць усё: і росная ружа, і слізкая жаба, і халодны паравоз, і гарачы конь. Трэба толькі, каб душа словы знайшла, каб прыгожа апранула думкі. А гэта альбо дадзена чалавеку ад нараджэння, альбо — не. Так было і ёсць ва ўсе часы... Вось мы і прыйшлі...»

Лі Бо сустрэў нас ля ўвахода. Павітаўся з Ду Фу і зрабіў выгляд, што мяне не заўважыў. Мне засталося адное: прачнуцца.

# *Апа-калі?..*

***1.***

пралётам, пералётам
з Марса на Венеру
яно спынілася ў нас
жоўтыя вочы
блукалі
па дрэвах і кустах
спапяляючы ўсё
на чым спыняўся позірк
прагныя вушы ўцягвалі ў сябе
ўсе гукі
і рабілі звыклую цішыню — магільнай
шырокія ноздры
забіралі ўсе пахі

там, дзе яно праляцела —
заставалася пустэльня
такая ж, як на Марсе
такая ж, як на Венеры

а кажуць — Бога няма...

***2.***

і вось стаіць чалавек
рукі — усе шэсць — узнятыя
у просьбе да нябачнага Бога
зміласцівіцца
і не адымаць у яго мову
бо гэта апошняе
што засталося ў чалавека
чалавечае

***3.***

пра гэта распавёў мне вецер
які ўзнялі крылы апошняй птушкі...
ён праляцеў праз вокны без шыбаў
праз галіны дрэваў без лісця
крутнуўся на лузе без травы
на рэчышчы без вады
і вярнуўся, каб пагуляць
з пер’ем птушкі, якая яго нарадзіла
расказаў і сам памёр
бо няма на гэтай зямлі
нічога вечнага
і нішто не нараджаецца з нічога

***4.***

стралялі?
не, у нас даўно ўжо не страляюць
ад гэтае заўсёднае цішыні

звон у вушах, які не звон, а сама цішыня
і нам тут жыць?
сярод пяску ды камянёў
і нам тут быць
да скону нямымі...

о, як я хачу прытуліцца да цябе шчакой
адчуць тваю цеплыню сваім холадам
пэўна, я памятаю нешта іншае
за тое, што ёсць сёння вакол нас
пэўна... і я быў некалі іншым
так, мы, камяні, станем пяском
але кім мы былі да гэтага?
не памятаю... не памятаю... не памятаю...

стралялі?
не, гэта на аднаго з нас стала меней

***5.***
усё ўжо некалі было
і будзе яшчэ не раз
смерці няма, як няма і вечнага жыцця
ёсць толькі нешта, што не мае назвы

не пытайцеся: «Навошта?»
пытайцеся: «Дзеля чаго?»

***6.***
іду
хаджу —
шукаю
і не знаходжу
еду
плыву

лячу —
шукаю
і не знаходжу

няўжо і праўда
я проста прысніў
што нехта быў
што сам я быў

**7.**

сонца ўзыходзіць роўна і трошкі ўправа
на яго яшчэ можна глядзець
не прымружыўшы вочы
эротыкі ажно зашмат у гэтым нараджэнні
новага дня
але хутка ўсё стане звыклым — звычайным
сонца возьмецца за працу і расцэпліць
замерзлыя з ночы лужыны
ажывіць жабак і вужоў
і вожык выйдзе на паляванне
лес захлынецца спевам птушак...
і толькі тваю адзіноту нішто не прагоніць
ніхто не сагрэе і не растопіць
ты будзеш сядзець ля акна,
глядзець на ранішняе сонца
згадваць тое, што было тысячу гадоў таму
не разумеючы: навошта яно забрала ўсіх,
але пакінула цябе
ты будзеш размаўляць з жабкамі,
вужамі і вожыкам
аднак ім будзе не да цябе,
бо жыццё для іх — праца
заўтра зноў сонца падымецца
роўна і трошкі ўправа

з таго часу, як прыляцела яно,
нічога не змяняецца вакол
аднастайнасць адзіноты катуе, але не забівае
хочацца верыць, што недзе цяпер
нараджаецца новае жыццё
што ты пакінуты не дарэмна
і слова «праца» яшчэ будзе ўсвядомлена

***8.***
Бог ёсць
Бог у табе
ты не адзін
ты не апошні
ты — першы
ты і Адам і Ева
табою не сканчаецца ўсё
а — пачынаецца
пачынаецца
пачынаецца
толькі пачынаецца
і вечнасць —
не ў мінулым, а наперадзе

проста, каб пачаць
трэба скончыць
проста без канца
не бывае пачатку

Бог ёсць
Бог будзе...
і не верце тым, хто кажа
што Бога няма

## ****ноч*

***1.***
гараць пальцы, як свечкі —
усе дзесяць
а ноч ад таго толькі цямней
гарыць цела, як слуп
а ноч вакол яшчэ чарней:
нават зорак не відаць

мне кажуць: не варта гарэць —
ранак прыйдзе і без твайго святла
мяне пераконваюць: не трэба згараць —
ноч сабою ты не асветліш
і дзень не наблізіш
 усё роўна
мяне змушаюць: скарыся прыродзе
яна мудрая:
каб не было ночы, ці ведалі б мы
што такое дзень?

я здагадваюся: ніхто не любіць ноч

я разумею: ноччу трэба адпачываць
я падазраю: на маё жыццё выпала ноч

але я не хачу —
жыць і памерці ноччу

і я буду змагацца з цемрай да скону

калі кожны сабою асветліць наваколле —
ноч скурчыцца і спаўзе ў лёхі

***2.***
сэрца маё не прымае краты
розум мой ненавідзіць прымус
я гатовы збегчы ад іх
у самую далёкую вёсачку
у якой жывая толькі адная хата
але ёсць царква
і крынічка са святою вадою

я там буду вольным

толькі сэрца маё
не стане спакойным
розум мой чамусьці
не спіць сыта-лена

нельга ўцячы ад сябе

жыццё дадзенае нам
каб змагацца з цемрай
– думаю я —
каб несці святло
ад якога разбураюцца кайданы і краты

калі зразумеў гэта
ці зможаш уцячы ад сябе
ў самую далёкую вёсачку —
і жыць
спакойна?

***3.***
нешта слізкае
пад нагамі
ці гэта не...
не...

проста чалавек
кепскі быў
а кіраваў дзяржавай

рукі і ногі ягоныя
павыпадалі, як зубы
сэрца вылецела чорнай птушкай
вочы выкаціліся і ляжаць
бы слівы пад асінаю
язык расцёгся да Масквы

а ўсё астатняе
а астатняе ўсё...

доўга яшчэ не дасць
нам спакою,
каб мы ведалі
каб скалануліся мы:
што кожная ноч надыходзіць
так рана-рана
і так надоўга-надоўга

## ***шанц*

***1.***
хочацца цішыні
хаткі на ўскрайку возера
рыбнага-найрыбнага

усё лета ў клопатах
чакаць зімы

радавацца першаму лёду
і першаму снегу

а потым, у пэўны момант
ступіць на возера
і прасекчы пельку

кожную раніцу прыходзіць да яе
каб злавіць адну-адзіную рыбку

і ўвесь час цешыць сябе жаданнем:
нырнуць у пельку і знікнуць пад лёдам
каб скарыстаць свой шанц

***2.***

хочацца цішыні
хаткі на беразе лесу
грыбнога-найгрыбнога

усю зіму ў маркоце
чакаць лета

радавацца першым вясновым краскам
і першаму чмялю ля іх

а потым, у пэўны момант
увайсці ў лес
і знайсці першага баравічка

кожную раніцу прыходзіць да яго
любавацца тым, як ён падрастае

і памерці разам з ім
з думкаю:
я скарыстаў свой шанц!

## ***камяні

паўночныя камяні — жывыя
яны паўзуць да нас з хуткасцю
адзін сантыметр у стагоддзе
ці мо нават і міліметр, але —
яны рухаюцца, рухаюцца!
гэта жахліва, калі ўявіць сабе будучыню
што надыдзе праз некалькі мільярдаў гадоў
калі яны ўрэшце прыпаўзуць да нас
і захопяць сабой усё наваколле...

я не хацеў бы — жыць у той час
я не хацеў бы — бачыць, як труцца
камень аб камень з хуткасцю
адзін міліметр (сантыметр) у стагоддзе...
ім цесна, трашчыць іх скура
і немы крык болю ляціць у сусвет...

паўночныя камяні жывыя
яны паўзуць да нас

## ***цягнік

зняверaны і змораны цягнік
ўзбіраецца на вершаліну (раю)
з вакон вагонаў насцярожана глядзяць
самотныя, нямыя вочы (пасажыраў)
цягнік шкрабецца ў вышыню
ўгінаюцца і стогнуць рэйкі (шляху)
і людзі з жахам (і надзеяй) пазіраюць
як цягнуцца ўніз (паўз іх)
павольна і марудна (быццам нехаця)
то дрэўцы, то кусты (то валуны)
і моляцца — дапамажы нам, Божа!
ўзабрацца на Тваю гару

ім так не хочацца назад

яны ўжо развіталіся з жыццём
з мінулым, прамінулым (з мітуснёй)
і будучыня іх ужо не цешыць
сваімі таямніцамі (прыемным невядомым)
надзеямі (і марамі)
што маюць прыкрасць —
не збывацца (а толькі расчароўваць)
жыццё адно (і смерць адна) —
так думаюць яны (спакойна)
праводзячы вачыма ўніз кусты (ды валуны)
ім хораша і добра (тут)
трывожна толькі (трохі)
з няпэўнасці: даедзем?.. не даедзем?..

і так не хочацца назад

## ****ты*

мне ўсё роўна — дзе ты цяпер
мне абыякава — хто ты цяпер

мне не разгадаць тваю таямніцу
мне не зазірнуць у тваю душу

але нашыя сэрцы б'юцца аднолькава
і гэта супакойвае

думаю, што мы ўвогуле жывём на розных планетах
думаю, што нам ніколі больш не пабачыцца

думаю, што я проста прымроіў цябе

але сэрцы нашыя б'юцца...
і гэта супакойвае

## ****Шагал*

раскінуўшы крылы лапсердака
падае і падае долу анёл
кружляе бы пажоўклы ліст і ніяк
не можа кранучца зямлі —
за ім тужліва назірае
скрозь шыбіну неба
адзіным зялёным вокам
бацькоўская хата, у якой я зноў і зноў нараджаюся
у самым густанаселеным пакоі ў свеце
дахі роднага мястэчка — разнаколерныя
як нашае шэрае жыццё
стоўпіліся статкам кароў ля азярца... ці, лепей, рэчкі
я лётаю ў снах над імі і ў свае дзевяноста
лунаю над Марсавым полем роднага мястэчка
і каторы раз прызнаюся сабе:
я ненавіджу вайну
якая распачынаецца раз-пораз
з адзінаю мэтай — знішчыць мой народ
бо ведаю: моц майго народу
не ў тым
каб перамагаць бясконца

## ***пачатакёсцьканец

### *1.*

даўно не бачыў столькі крумкачоў над лесам —
кажуць, яны плодзяцца ў прадчуванні вайны
як буслы ў чаканні мокрага лета поўнага гадаў і жаб
значыць, корму крумкачам
                    і іх дзеткам будзе ўдосталь
калі раптам пачнецца тое,
                    чаго так не хочуць простыя людзі
так баяцца, паўтараючы ўвесь час:
                    абы не было вайны
і церпяць, бясконца церпяць тых,
                    хто ім вайну рыхтуе
крумкачы кружляюць па-над полем і лесам
                    у чаканні здабычы
яны ніколі яшчэ не памыляліся

яны заўсёды ведаюць наперад, што і як будзе тады
калі бывае позна нешта змяніць

гэтым разам пачатак зноў стане канцом
і для крумкачоў з іх шматлікімі дзеткамі таксама...
але і гэтага яны не прадбачаць

***2.***
тэатр оперы і балета
на месцы паганскага капішча —
*шыкоўна*
і пасля гэтага вы спадзеяцеся
што Нехта будзе да вас літасцівым?

рэстаран
на месцы расстрэлаў бязвінных ахвяраў —
*арыгінальна*
і вы мяркуеце, што Нехта гэтага не бачыць
і вашыя скокі на касцях
                                    ды гарланне песняў да раніцы
застануцца незаўважанымі і даραванымі?

склад угнаенняў у царкве
прыбіральня на магіле
                    закатаванага бальшавікамі святара —
*практычна*
і вы думаеце, вы разлічваеце, што...

што гэта ж зрабілі не вы, і нават не вашыя продкі...
няхай, але вы наведалі тэатр
адсвяткавалі дзень народзінаў у рэстаране
пакарысталіся прыбіральняй...
і каб жа толькі вы, і каб жа толькі
                                    ў вашым горадзе так было...

лёс Садома і Гаморы не міф, а будучыня
кожнага паасобку і ўсіх разам

*3.*
дзіва дзіўнае
як хутка знікае памяць пра чалавека
з твару зямлі

плывём па рэчцы
на берагах якой яшчэ сорак гадоў таму жылі людзі
а цяперака ад іх жытла следу не засталося
дзе былі палі жытнёвыя — лес
дзе былі дарогі —
        бярозы ды сосны струнка глядзяцца ў неба
толькі пархатыя ад моху сваі дубовыя
на месцах былых мастоў
яшчэ не дагнілі дарэшты
і даюць нам знак, што тут
была пераправа і да яе вяла дарога
па якой хадзілі людзі і ездзілі машыны

калі б не бачыў даўніх мапаў
дзе на берагах пазначаныя вёскі
ніколі не паверыў бы, што некалі яны тут былі

прырода аднавіла свой першапачатковы выгляд
аднавіла сябе, бы ў люстэрку, за нейкія сорак гадоў

міжволі падумаеш:
а што застанецца ад нашых гарадоў
праз мізэрнае для гісторыі тысячагоддзе?

нічога, нічога, нічога

можа, гэта і добра: мы не ўмелі жыць
дык навошта і памяць пра нас

***4.***
кнігарні, бібліятэкі
магілкі кніг нечапаных
большасць з іх ніхто ніколі не прачытае
нават тыя, хто набудзе гэтыя кнігі
у лепшым выпадку толькі пагартаюць іх
і паставяць у іншую братнюю магілу —
кніжную паліцу ці шафу

чалавецтва канае
чалавецтва вяртаецца туды, адкуль прыйшло
чацвёртай сусветнай вайны не будзе
пасля трэцяй зноў будзе першая
Бог лічыць да трох
і гэты вальс — раз, два, тры; раз, два, тры;
раз, два, тры...
будзе паўтарацца бясконца

будзе паўтарацца бясконца?
можа, й так

але што табе з гэтага, чалавек?
цябе гэта радуе
ці супакойвае?
пакідае табе асабіста надзею?

не

дык, можа, хопіць лічыць да трох
можа, варта спыніць гэтую музыку
на раз-два...

## ****не ўсведамляючы*

выпіў атруты і памёр
дзіўна, але не першы ж раз
піў яе
але цяпер і
талісман не дапамог

лёгка жыў і лёгка памёр
жыў не ўсведамляючы сябе
Царом народаў
і памёр не ўсвядоміўшы

людзі плакалі: як мы жыць будзем
без такога светлага розуму

а назаўтра выкінулі той розум
перад бальзамаваннем

## ****кропка...*

напісанае застаецца?
рукапісы не гараць (і не тонуць)?..

маўчанне ў адказ мне:
ні гуку

знікае столь над галавою
бачу імглу ў зорным небе —
Млечны Шлях
там нехта ёсць і ён
глядзіць на мяне не міргаючы

хто каго перагледзіць?
хто каго перамаўчыць?

дрэвы дрыжаць ад холаду
дахі зайшліся ад сіверу
людзі захутваюцца ад сцюжы
ў шалікі ды каўняры
рукі хаваюць у пальчаткі

кожны плача па-свойму
кожны плоціць па-свойму:
рукапісы не тонуць... не тонуць...

і апошняя кропка
яшчэ не пастаўленая

## ***потым

слізгаюць лыжы па целе тваім
кроў крапае на чаравікі
горад злуецца, шпурляецца лісцем
снег растае і сцякае, як дождж

ты не ўставай, ты ляжы нібы мёртвы
цела спадзе, косці пра-сох-нуць
толькі анатам вызначыць потым:
мужчына ты быў ці была ты жанчынай
куля цяпер не з табою, а побач
крот твой сусед, мурашы і гадзюка...

мы пакаленне забытых, забітых
нас пастралялі не з лукаў, не з танкаў
кожны радок — след крывавы на снезе
на глебе, на хлебе, ды ты не з апошніх!
думкі лятаюць, жывуць ды кахаюць
край твой застаўся, ты ў ім застаўся
а значыць, не дарма...
і неба твой сябар, і сонцы ўсе свецяць
і ночы прыходзяць, каб бачыць цябе:

пераможца!

## ***вось

рыбіна-возера
плешчацца ля ног
воблака-лебедзь
кліча да сябе
зямля-чорны-хлеб
не адпускае

намачу ногі ў вадзе
цёплай і мяккай
ступлю на пыл
мяккі і цёплы
і ўздымуся ў неба
да воблака-лебедзя
сонца пацалую
ветру ўсміхнуся —

вось яно шчасце
шчасце —
        яно —
          вось —

### ****спачын*

дуб адзінокі ў полі
грыб адзінотны пад дубам
можна прайсці — не заўважыць
можна пакрыўдзіць няўвагай
грыб пасміхнецца ўслед —
жыць засталося тры дні
дуб пахітнецца ўслед —
стаяць тут яшчэ тры стагоддзі
а ты паглядзіш наперад
дзе поле зліваецца з небам
і вернешся, сядзеш пад дубам
спачыць перад дальняй дарогай

## ****зона*

***1.***

трапечуць асіны лісцём гаваркім,
салаўіным, пякучым, гарачым
дубовыя пні б'юць у барабаны сваіх лысінаў
ажно вочы на лоб вылазяць
пыл чорны, тарфяны, засціць сонца сабою
і збіраецца ў хмары, бы саранча
радыяцыя любіць рухацца, ёй хочацца
знішчаць жывое, й хочацца пераменаў,
ёй няймецца на месцы
каровы рыкаюць ад болю і дояцца ў пясок —
вужы паўзуць услед за струменьчыкамі малака
шчасце, якое здавалася такім блізкім, спяклося,
бы яечня на патэльні

і плача вусень — ён зусім не жадае
перατварацца ў матылька
планеты выстраіліся літарай «і» ці клічнікам — «!»,
а дакладней — шматшматкроп’ем.........
вы кажаце «сва-ваў-ваў-бода», а гэта сабака
брэша на вас, падбягаючы на даўжыню ланцуга
вам можа прысніцца акіян, красавік,
статкі льдзінаў, карагоды айсбергаў
холад і змрок далёкіх падарожжаў да Альтаіра
ці Плеядаў, а потым, зусім недарэчна —
чародка цыбатых шпакоў, што моўчкі шукаюць
конікаў між штучнай травы на футбольным полі
самаўпэўненыя, шустрыя шпакі зусім
не саромеюцца знерваваных футбалістаў
кожны з якіх прагне забіць гол —
нават статычныя самотныя брамнікі
неба раптам разломіцца напалам і хлыне
вясёлы шумны дождж
з малюсенькімі рыбкамі ды апалонікамі
яны будуць падаць на поле і спрабаваць плысці
між густых травінак: наперад, наперад
яны будуць падаць і біць футбалістаў па галовах,
часам — балюча, часцей — брыдка і слізка
і ўпартае хаджэнне шпакоў па полі стадыёна
нарэшце набудзе сэнс —
набудзе сэнс:
як песня асінаў пад барабаны дубовых пнёў,
бо радыяцыя заўсёды мае рацыю
а шчасце вусеня —
не стаць міжпланетным матыльком
а быць здзяўбаным маўклівым,
самаўпэўненым шпаком
на штучным футбольным полі

***2.***

фарбы размытыя ў шэрыя плямы
асфальт у выбоінах — выцвілы і няшчасны
пасля дажджу наваколле
пахне гніллём і старасцю
але — калі адысці ад дарогі
але — калі выйсці за вёску
туды, дзе было некалі поле, — радасць буяе вакол:
шчасце жыцця без чалавека
які толькі топча, знішчае, збірае, забірае
тое, што родзіць прырода для сябе

такога сакавітага зяленіва не ўбачыш нідзе
толькі тут — паблізу Чарнобыля...

уяўляю, як абрыд Зямлі чалавек
адвечным жаданнем зрабіць сваё жыццё
лепшым, лягчэйшым, смачнейшым —
як яму думаецца
а насамрэч — проста ўдасканаліць
знішчэнне прыроды

Зямля ўзрасціла і перажыла не адну хвалю людзей
кожны раз спадзеючыся,
што новая будзе разумнейшай:
ашчаднай, талерантнай, сціплай, добрай...
і кожны раз памыляючыся ў сваіх чаканнях
яна знервавалася ўжо,
але зноў і зноў эксперыментуе
бо адной так сумна ў гэтым сусвеце
яна знішчае сваіх непакорных
надакучлівых дзетак
каб зноў нарадзіць іх, пеставаць, і —
урэшце знішчыць...

## ****сон-ява? ява-сон?*

у казцы палявалі на мяне
вялізныя дзве птушкі
з кіпцюрамі
і галовамі львоў

Платон не казачны герой, але
шукаў мне выйсце
і знайшоў:
памерці

ты ў Бога верыш?
Іешуа спытаўся перад тым
і адказаў сам:
і я таксама — ... ...

тады прачнуўся я
каб распавесці ўсім, што:
ява — сон
а рэчаіснасць нашая
і сон, і ява разам
якіх не апісаць
ні Гамеру
ні Сервантэсу
ні Гофману
ні Гогалю
ні Кафку...

ні нам

## ***(…)

піск галоднага шчанючка
енк марцовае коткі
плач пакрыўджанага дзіцяці
–
–
–
вось і ўсё,
што застанецца нам
ад гэтага жыцця

## ******даплыць***

спакой мне ўбачыўся (прысніўся!):

восень, дні кароткія
ля ног
рэчка глыбокая
плысці давядзецца
каб трапіць на той бераг

хуткая плынь зносіць мяне
зносіць мяне, як саломінку
я назіраю за сабою
і ведаю, што не даплыву

я не здагадваюся, што гэта сон
я жыву цяпер і тут
але мне не страшна
мне спакойна
як Напалеону на Бярэзіне
я нават склаў рукі на грудзях, як ён
і назіраю за сабою ў хвалях

ну й хай сабе адзін з нас патоне —
другі застанецца на беразе:

трэба ўмець паміраць

## ****прызнанні*

***1.***

сёння мне падабаецца слова «празрысты»:
колькі ў ім чысціні і глыбіні...

а туман між тым —
тугі, нібы малако
і машына прабіраецца ў ім
навобмацак:
кола
за колам
і нехта рукою праціраe табе шкло,
каб фары сустрэчных
мільганулі
і праехалі паўз...

***2.***

сёння я не люблю слова «народ»
столькі ў ім несправядлівасці й брыдоты

мой карабель
нясецца між сонцаў

– дадому —

і тут п'яны зорны паліцыянт
спыняе мяне і кажа: «...»
няважна, што ён кажа
(прыдумайце самі
                    тую доўгую-доўгую непрыстойнасць)

важна, што спыняе...
я гляджу на яго — на-хаб-на-га! —
і думаю:
як жа я не люблю сёння слова «народ»

## ****пра гэта*

***1.***
я — шызы верабей
збіты
каменьчыкам з рагаткі

я — вой, што страціў зброю
і будзе
расстраляны

я — стомлены кажан
вішу
нагамі ўверх

я — гэта ты
сці-ша-на-я
пад коўдрай ложка без мяне

ты не паверыш:
я сёння зноў бачыў вясёлку...
а мог зімой памерці

***2.***

я — верш
прысвечаны табе
я толькі верш
я толькі словы
ты можаш мне не верыць
ты можаш раскідаць мяне
на літары — не прачытаўшы
ды ведай:
што ад цяпер
я буду вечны:
аднойчы створаны
я лётаю між небам і зямлёю
каб зноў і зноў
мяне запісвалі паэты
на розных мовах
іншыя паэты
і прысвячалі
сваім каханым...

пакуль адна з іх
не паверыць мне —
вершу
што прысвечаны
т-а-б-е

## ****каменьчыкі*

...спускаліся з гары —
ногі беглі ўніз шпарка
цела не паспявала за імі
і здавалася: я падрастаю
– вы-цяг-ва-ю-ся —
штохвілю на паўметра

каменьчыкі абганялі нас
пагражаючы ўзняць лавіну
і разбурыць чыёсьці жыццё там, унізе
але і яны спыняліся
застывалі ў самых нязручных паставах
гатовыя зноў сарвацца
і кінуцца ўніз галавою — ад неасцярожнага руху:
майго, твайго, мурашкі альбо ветру:
каб перагарадзіць сабою дарогу
каб запаволіць бег рэчкі
каб прабіць дах пастуховае хаціны
каб перабіць ножку авечцы
каб легчы ў падмурак
ці сцяну новага дома

горай за горы хіба толькі горы?

## ***Бабілон

скрозь смугу нябёсаў
у мроіве душы
плыве нябачны стогн:
Ме-са-па-та-мі-я...

персы мыюць пальцы ў вадзе
змываюць кроў, што сочыцца
з пялёсткаў рваных скуры
і дробязь спаганяюць
з жабракоў
пры ўваходзе ў горад-храм

скрозь дождж вачэй сваіх
ты бачыш Бабілон...

пошта галубіная імчыць
да Кіра між аблокаў часу
на ўзбярэжжы Ной
тралюе дрэвы, а
на парозе новага каўчэга
заснула котка і
муркоча ў сне

па гіпербарэйскім коўзскім лёдзе
дыбаюць Алень
з Аляніцай
спяшаюць:
да Бабілона шлях няблізкі

## ****шчыраваць*

ложак наш — луг бясконцы
трава лашчыць твар
тысячаю сваіх язычкоў
неба пачынаецца ля вачэй
і цягнецца
з глыбіняў свядомасці
ў цемрыва сусвету
і там, далёка, ты сёння
не знойдзеш сябе

бо крокі нячутныя
па мокрай траве
бо стогн твой — крык чаіцы —
цешыць слых
і прымушае
шчыраваць,
        шчыраваць,
                шчыраваць

## ***Бычкі

у Бычках трава па пояс і вышэй
ваўчкі чапляюцца за валасы
яблыкі падаюць пад ногі
і хаваюцца ў густым зяленіве —
не знайсці
над возерам лёгкі туман
крык чаек далёкі

а на могілках — цішыня

ніхто не ўстане, каб сустрэць
ніхто не выйдзе, каб правесці

вецер дыхае ў дрэвах трывожна
захліпаецца
збіваецца на шэпт
бо гаварыць цяжка:
        заўсёды цяжка казаць праўду

на палове крыжоў —
        адное і тое ж прозвішча:
                Быкаў (ці Быкава)

а ў вёсцы — дзве хаты жывыя

## ***Ешуа

Ешуа... Крыж...
Кроў запяклася на траве
Як барвовыя кветкі

Будзе дождж
Салёнай вадою ўпадуць
        усе нашыя слёзы
І раны Твае за нас
        засмыляць яшчэ невыносней

Даруй нам.
        Даруй!

У кожнага з нас свой крыж
у кожнага — свае раны
і толькі ў Цябе — нашыя

Сярод тых слёз і мае
        і ўсіх, хто жыў
                і будзе жыць
і любіць Цябе

Мы спачувалі,
                мы хацелі дабра
а толькі ўзмацнялі Твой боль
Твае пакуты

Даруй нам.
        Даруй!

## ****паляванне*

усе іхнія рэвалюцыі —
        начныя палюцыі
міліцыі ды спецназу
бо нам шкада нават леташняга снегу
не тое што сваіх жыццяў...

яны не воі
а — забойцы:
сябе ў сабе
        і вас у вас

хай лепей ад'едуць адсюль
на адпачынак і спачын:

восеньскае паляванне на грыбы
дасканалая замена паляванню
на свой народ

## ****вузельчыкі*

рука памяці
праз плынь часу
адбірае і пакідае
зерне да зернейка
самае сваё
а чужое прапускае між пальцаў
і застаецца
ў каго жменька
а ў іншага цэлыя прыгаршчы
гарачых бы вугельчыкі
тугіх вузельчыкаў жыцця
з якіх ніколі не прарасце
парастак метафары
вобразам забыцця

## ***топас

жменя адсырэлых жыццяў
перасыпаных жоўтым смеццем
задыміла ў вуголлі
і ўспыхнула
языкі полымя шуганулі ў неба
і адразу ж апалі
але ў тым кароткім святле
я паспеў убачыць
твой разгублены твар
«падкінь дроваў», — сказала ты
а мне пачулася: «я цябе кахаю»

## ******учора***

Гефест выкаваў Пракрусту ложак —
драўляны спалілі персы ўчора
...чытанне спрыяе...
        спрыяе...

і тут зноў пайшлі —
        кроў ды гразь:
капыты можна не мыць

***верш*

вольны верш
метастазы метафараў
парабалы гіпербалаў
парад парадаў
парадоксаў

а я шукаю ў ім музыку
...і не знаходжу

## ****вырай*

Птушкі шугаюць на дысплэі неба
малююць сабою знакі і сімвалы
нібыта хочуць нешта важнае
паведаміць людзям
на развітанне перад выраем.

Я ўзіраюся ў тыя кропкі і кропачкі
збіраю іх у малюнкі
настолькі абстрактныя, што
пазайздросціў бы сам Полак
але сэнс паслання выслізгвае
і знікае за аблокамі.

Птушкі развітваюцца з гэтаю зямлёю
не ведаючы, ці вернуцца сюды ўвесну
і колькі з іх бачыць гэты лес
дарогу
дрэвы
кропачкі людзей унізе —
апошні раз.

І мы глядзім на іх адлёт
яшчэ не ведаючы
ці дачакаемся вяртання.

## ****не сталасць*

сталасць — не старасць
сонца ўзыдзе і заўтра
вочы расплюшчацца і запалаюць
валасы будуць лунаць на ветры
а позірк — блукаць у небе
хмары — дрэвы, а пад імі
крамяныя баравічкі, вушатыя рыжыкі
насатыя ababкі, губатыя сыраежкі...

ты ляжыш на спіне
тр*а*вы і кветкі люляюць цябе
формула шчасця:
шчасце не фармулюецца

старасць — не сталасць
а вяртанне ў будучыню

## ****грэх*

з кожнае кнігі
вытыркаюцца цвікі думак
вожыкі кніжак
колюцца і выпадаюць з рук
калечаць зямлю
калечаць сябе
не хадзіце па кнігах —
гэта грэх
не засявайце кнігамі поле —
нічога не вырасце
не паліце кнігі —
дым выесць вам вочы
чытайце кнігі ўголас
неба і зоркі
любяць слухаць вас
параненыя пальцы
адразу загояцца
параненыя душы
народзяць...
        новыя...

## ***пастух

тры возеры пасвіў пастух

з малаком
з вінoм
і з простаю вадою

заснуў неўпрыкмет
а калі прачнуўся —
недалічыўся аднаго возера

каго здзівіш сёння вінoм?
ці кінецца хто
красці малако?
а вада крынічная
а крынічная
празрыстая вада
ўвабрала ў сябе дрэвы
неба
і хмаркі
траву ўвабрала
і кветкі ў ёй:
пчолкі сонныя
мёд збіраюць...

увабрала вада сябе ў сябе
і згубілася сама ў сабе
свая сярод свайго

пакуль спаў пастух

## ****паслухай, брат*

брат, скажы, брат,
не маўчы, брат,
выпі, брат,
жыццё праходзіць, брат,
камп'ютар завіс, брат,
брат, а што мне — таксама
павесіцца?
брат?
не маўчы, брат,
скажы, брат,
як жыць? брат?
паслухай, брат:
жыццё пра-хо-дзіць,

бра-ат.

## ****Чарнобыль*

узыходзіць сонца —
сохне ліст
пялёсткі кветак
асыпаюцца ў рэчку
на бераг выкідаюцца самы
і б’юць хвастамі
зямлю пад сабою
звычайны дзень —
ні ветрыку, ні хмаркі
а чайкі падаюць у Прыпяць
і не ўзлятаюць...

## ***малако

пыл лезе ў вочы
нос і горла
слепіць і душыць —
месяц дажджу не было
статак з пашы прайшоў
пыл пахне сырадоем
і гноем

я не магу ў вёсцы
піць малако
яно пахне тым пылам
які душыць і слепіць
яно пахне гноем
які смярдзіць малаком

я зрабіўся зусім гарадскім

еду ў краму
купляю малако ў пакеце
страшна сказаць: пастэрызаванае
без паху
без смаку

і п’е мяне малако

## ***але

трое вачэй сочаць за мною
і ў кожным воку
па тры зрэнкі
адное вока бачыць мяне ўдзень
другое ноччу
а трэцяе — заўсёды

трое вушэй ловіць кожнае
маё слова
першае вуха ўдзень
другое — ноччу
а трэцяе — заўсёды

ужо сорак гадоў я не сплю
сорак гадоў я не выходжу з дому
не пішу, не размаўляю, не рухаюся
ужо сорак гадоў, як я памёр
але
кожны дзень, кожную хвілю
трое вачэй сочыць за мною
трое вушэй
прыслухоўваюцца да мяне

## ****маркота*

змрок
шызы і ўпэўнены ў сабе
накураны
атуліў зямлю
шэрым шынелкам туману

сыра і брыдка —
нават ля вогнішча сядзець
дымна і думна

можна толькі марыць
што недзе цяпер ужо ранак
і ноч адступіла насуплена

добра, калі зловіцца рыбінка
і цябе пакліча званочак вуды

а то ў цішыні толькі русалкі
плёхаюць хвастамі
разганяюць маркоту
і насылаюць не страх
а надзею

## ****музыка*

трывожна паблісквае музыка
з усіх вачніцаў-байніцаў
гарматы маўчаць, музы мыюць бялізну:
бінтоў не хопіць на ўсіх параненых цымбаламі

«до» — меч, «сі» — ядзерная бомба:
клавесін рэжа ўсіх, як фрэза, напалам
піяніна забівае, нібы цвікі, целы ў зямлю па шыю
гітары спавіваюць і душаць, як анаконды
мандаліны адшчыкваюць мужчынам яйцы,
жанчынам грудзі

роспачны спеў над храмам-дзяржавай
матчынай песняй — калыханкай —
лунае
і сцішвацца ў нетрах зямлі...

Чарнобыль не дапаможа.

## ****лебэнсраўм*

маю хату апанавалі мурашы
вялізныя, чорныя, бы з фільмаў жахаў
іх сківіцы няспынна рухаюцца
пагрозліва-пагражаючы
перагрызці і знішчыць
любую перашкоду
на іхняй дарозе...

да сёння я не ведаў
колькі жывых істотаў
жыве побач са мною:
шпакі
краты
чмялі
матылькі
і вось цяпер — мурашы...

да сёння я не адчуваў, што нехта прэтэндуе
на маю жыццёвую прастору
што камусьці не хапае «лебэнсраўма»
я і не думаў, што магу
камусьці замінаць жыць
я і не думаю, што камусьці тут я лішні,
але
мне стала жыць цясней
на гэтым свеце
матылькі і шпакі — няхай:
яны да мяне ўжо даўно прывыклі
а вось крот — точыць і точыць
зямлю пада мною
і ўсё бліжэй і бліжэй да мяне
клацаюць сківіцамі
мурашы

## ****вароты*

вароты стаяць пасярод ракі
варта нікога не пускае на бераг
плыві куды хочаш
хоць да мора-акіяну
толькі на бераг не вылазь
высахнеш і засохнеш
кажуць вартаўнікі

і на беразе стаяць вароты
варта ў ваду не пускае нікога
ідзі куды хочаш
хоць на край свету
толькі ў раку не скачы
змокнеш і згніеш
кажуць вартаўнікі

а той, хто нас разгарадзіў
хто паставіў варту ля варотаў
хоча купаецца, а хоча — скача
і не баіцца засохнуць
і не баіцца згніць

пройдуць вякі
не стане мяне і цябе
знікне ў часе той, хто
падзяліў нас
згніюць вароты ў рацэ і сплывуць
засохнуць вароты на беразе і рассыплюцца
аднак
цяпер вашыя дзеці мокнуць у рацэ
цяпер нашыя дзеці сохнуць на беразе
і дзеці вартаўнікоў вартуюць іх

## ****любоў*

асліная сківіца ў тваіх руках —
мацней за гіпер-зброю

дым вогнішча майго
сыта зліваецца з аблокамі

нас стала меней удвая — так трэба:
у кожным яйку — адзін жаўток

ды толькі —
за любоў і жыць не страшна

## ****сыдзі*

правілы змяніліся —
                    сыходзь

нікому не дадзена
перамагчы ў гэтай гульні

сам-насам з —

тым, хто змяняе правілы
падчас твайго жыцця

### ***яны

яны сюды лятуць
ім трэба тут
мы лішнія цяпер

спазніліся
а будучыні ў нас і не было
бо гэта не гульня
не шахматы
не фільм
які пачнеш спачатку

мы лішнія цяпер —
ім трэба тут

## ****скульпт…*

скульптуры стаяць так, як пастаўленыя —
ноччу не ажываюць яны
позным вечарам і апоўначы бачу я іх
на пляцы тым самым...
постаці іх нерухомыя —
вечны дакор мітуслівым нам

я не хачу быць скульптурай —
цесна без рухаў мне
лепш стану каменем пры дарозе
вольным каменем:
куды хачу — туды качуся
ляжу так, як мне ёмка...

спыніся, чалавек
на мне пастой:
я жыў, каб цябе падымаць —

## ***«...усё астатняе ад лукавага...»

Дзе іду, — там і дарога
*Леанід Дранько-Майсюк.*
Я той, хто шлях і хто па ім ідзе
*Алесь Разанаў.*

я — кропка, якой няма
ты — кропка, якой няма
зямля — кропка, якой няма
сусвет — кропка, якой няма

няма нічога — нават смерці
ёсць толькі Бог — Вялікі Архітэктар Сусвету,
які напісаў «камп'ютарную» праграму
дзе мы ёсць, хоць насамрэч нікога няма

ёсць толькі Бог
які і ёсць кропка. Адліку.

...якой
няма...

## ****востраў*

я на востраве
адзін
справа і злева рака
якую не пераплыць
нікому
Харон прывёз мяне сюды
і пакінуў
я цяпер не тут і не там:
колькі ні чытаў раней пра гэтую раку
нідзе не напісана, што пасярод яе
ёсць востраў

цяпер я бачу — ёсць
пароcлы знаёмымі дрэвамі
не пальмамі, а бярозамі ды вольхамі
і тут заўсёды лета
прынамсі, так мне хочацца думаць
бо там, адкуль я, цяпер зіма...
вакол вострава Лета і на ім лета

час ідзе, а Харон не вяртаецца
зрэшты, ён і не абяцаў вярнуцца...

...з’еў колькі сунічак
паляжаў, паглядзеў у блакіт неба:
ні хмаркі, ні воблачка
Палессе дый годзе
Прыпяць з востравам пасярод...
і стала цікава: ці бываюць
на гэтым востраве ночы?
рухаецца тут час — ці толькі там, адкуль я
дзе, спадзяюся, яшчэ мяне памятаюць
дзе цяпер бягуць не хвіліны, а дні?..
і колькі яшчэ такіх астравоў
на гэтай рацэ?
і колькі яшчэ такіх, як я, адпачывальнікаў
чакальнікаў
на іх?

я не засынаў, але
прачнуўся тут — зноў сярод зімы
у белым ложку
пакінуўшы адказы там
на востраве
пасярод Леты

## ****сцэнар*

запісы збіраюцца, збіваюцца ў чароды
злятаюць з аркушыка і вяртаюцца
                                                    да гнёздаў сваіх
паступова ператвараюцца —
                              адзін у раман, а другі ў навелу
у фільм, у спектакль, у песню
у верш
і ніхто не хоча прызнацца нават самому сабе,

што ён толькі выдумка
выдумка
выдумка
бо самае важнае ў жыцці... бо каханне...
праходзіць і не вяртаецца
і не могуць паўплываць на яго
ні вашыя вершы
ні аповеды, фільмы, спектаклі, раманы ці эсэ...
Бог зрабіў так, каб не было паўтораў
ніколі нідзе ні ў кога ні з кім
інакш Яму нецікава было б назіраць за намі

колькі людзей — столькі гісторыяў
колькі людзей — столькі каханняў

людзі прыдумалі літаркі,
каб захаваць свае веды, свае думкі
ды перадаць іх наступнікам...
толькі — пачуцці не кансервуюцца
і кожны, прачытаўшы твой запіс, верш, раман
навелу, п’есу... сцэнар
перажыве яго змест па-свойму

у гэтым сіла мастацтва — скажа крытык
і запнецца, раптам зразумеўшы
што крытык у нас адзін —
як і глядач, як і слухач
як і суперажывальнік (супер-ажывальнік... ???)
і — што:
ўсе нашыя трагедыі ды камедыі,
драмы ды фарсы
нішто
ў параўнанні з тым, да чаго мы
рыхтуемся...

## ***агонь

***1. вогнішча***
іскры ўзлятаюць у чарноту неба
мкнуцца да гэтакіх самых іскрынак-зор
і знікаюць між іх
бясконцая прастора паглынае іскрынкі
забірае ў сваё жыццё, каб сталі яны
сонцамі для іншых планет

няўжо так лёгка стаць сонцам?

***2. вогнішча***
языкі полымя сягаюць у вышыню
адрываюцца і ляцяць да хмар

навошта...

іх цяпло патрэбнае тут
людзям, што грэюцца вакол зыркага агню
а яны хочуць даляцець да сонца і зліцца з ім

навошта...

***3. вогнішча***
дагарае, цяпельца ледзь свеціцца
чырвоным яшчэ паміж ужо шэрага

дожджык падае па кроплі
цяпельца злуецца і шыпіць, як жывое

ніхто нікога не параможа:
ні вогнішча — дожджык, ні дожджык — вогнішча
яны проста спустошацца
ў бессэнсоўным, здавалася б, змаганні

агонь і вада
антаганісты, адваротныя сутнасці —

аснова жыцця

***4. вогнішча***
раскладзенае маланкай для першага чалавека
сімвал дабра і зла ў адным...
агонь грэе, але і пячэцца
агонь дапамагае і вучыць
але і карае тых, хто не хоча вучыцца:

агонь зрабіў чалавека чалавекам?

***5. вогнішча***
перабралася ў хату, стала камінам, печчу, грубкай

чалавек прыручыў агонь
агонь прыручыў чалавека
навучыў карыстацца сабой
а потым вадою, зямлёю, ветрам
сонцам
прырода любіць і пестуе чалавека
не адзінага свайго гадаванца, але
любімага
і гэтак жа лёгка
яна развітаецца з чалавекам
калі ён не навучыцца
быць удзячным

******мова***

дзверы адчыненыя ў свет

нашая мова — вузкая шчылінка
ў сцяне пакоя, у якім вакол —
                                        дзверы, дзверы, дзверы...

зверху столь, знізу падлога
шлях прадвызначаны...

а мы нікнем да шчылінкі...

## ****зман*

люты...
жоўты, зялёны, сіні снег
чырвоны
быццам вясёлка ўпала на зямлю

красавік...
жоўтыя, зялёныя, сінія ручайкі
чырвоныя
сабраліся разам ды пацяклі ў Свіслач

і запанавала шэрасць

сэрца баліць

## ***цытата

я не спаў
калі гартала кнігу ты
я проста плыў
між жыта валасамі
і васількамі дрэў
і раптам мовіш ты:
«вось гэта я люблю!»
і ўслых чытаеш
некалькі радкоў
не верша — прозы...
цытата, знойдзеная
між тысячы старонак
уразіла й мяне
як афарызм антычны
як ісціна біблейская
ну што тут скажаш —
пясчынку золата здабыць
не ўсюды можна
а толькі там
дзе ёсць парода...
ізноў вандрую я
між небаў і аблок
і рыбы цешаць слых
лускою свежых думак
а ты далей чытаеш кнігу —
стомлена бурчыш
і засынаеш
з цытатай
пераспелаю на вуснах

## ******пік***

гара здавалася блізкай-блізкай
а мы йшлі да яе амаль цэлы дзень
і не дайшлі: яна заставалася
ўсё такой жа недасяжна-блізкай...
ты сказаў: давай вернемся
нам дамоў ісці дольш, чым дасюль,
а ўжо вечар засціць вочы —
і я не хачу начаваць у гарах...

паэзія засталася паэзіяй
недасяжнай, як тая гара,
што мела назву «пік Чэхава»
чаму Чэхава, а не Пушкіна,
не Купалы і не Коласа?
ды таму, што Пушкін на Сахаліне не быў
а Купалу і Коласа сюды не саслалі... і, урэшце
Чэхаў не паэт, о крый нас Божа...

позняй ноччу,
калі мы падышлі да дома
на небе гарэлі амаль нябачныя ў горадзе зоркі
і адна з іх міргала ў той час найболей:
часта-часценька, нібыта ўсміхаючыся
нібыта смеючыся ў радасці...
што азначала гэта, я даведаўся
толькі праз дваццаць гадоў
калі сустрэў цябе —

ты нарадзілася ў той самы дзень,
калі мы йшлі да піка Чэхава й не дапялі яго
ты плакала тады, а я твой крык не чуў
бо ты была далёкай, як вяршыня той гары...
ты плакала тады, каб сёння радаваўся
я — стары, сівы, нібы той заснежаны
пік Чэхава, але цяпер ужо —
такі дасягальна-блізкі...

## ****лямпачка*

і вось — зноў загарэлася поўня
змоўклі птушкі ўверсе і ўнізе
палова жыцця прамінула, пакуль
ішло святло да лямпачкі
мы не заўважаем, што
зямля раз-пораз спыняецца
сыходзяць з яе пасажыры
і пасажыры на ёй застаюцца —
ім яшчэ круціцца ды круціцца
уключаць святло і мяняць лямпачкі
ненавідзець цемру і чакаць яе
дзівіцца: як тонка прадумаў усё Нехта
да дробязі, да рукі, што цягнецца
да вы-ключальніка — і лямпачка за-га-ра-ец-ца...

так было — так ёсць — так будзе
так было? так ёсць! так будзе...
так было! так ёсць... так будзе?

## ***дзве фрэскі аднаго дня: 02.06.2011

***1.***
кароткая летняя навальніца
прашумела па дрэвах горада
пранеслася імклівая, як каханне
бо толькі пасля прамінулай любові
бывае так чыста і свежа
так вусцішна лёгка і высока
так проста жыць на зямлі
што застаецца толькі засіліцца

***2.***
у кагосьці свой калодзеж
у кагосьці свая крыніца
у кагосьці сваё балота
у кагосьці сваё мора

у моры можна купацца
ля мора можна ляжаць і чытаць кніжку
у моры можна злавіць мядузу
мора можна маляваць
усё можна, нельга толькі піць ягоную ваду...
балота можна асушыць
і пасадзіць грэчку ці авёс
над крынічкай варта паставіць зруб
нізкі, каб кожны кланяўся ёй

а ў калодзежы — утапіцца

## ***спачын

аўтобус спыніўся на поля ўскрайку паблізу рачулкі
пабеглі купацца дзяўчаты і хлопцы ў плыткай вадзе
а ты, прылёгшы на руль, задрамаў на хвілінку
радасць спачыну ва ўсмешку схаваўшы сваю
дарогі стамляюць...
стамляюць
так скажа вам кожны, хто ехаў, ішоў
хоць раз у жыцці без надзеі вяртання
і меў адпачынак на ўскрайку жыцця...

...аўтобус пакліча ў сябе шчаслівых скупаных
бруд дзён і начэй пазмывалых людзей...
...каб высадзіць іх
проста ў неба — у неба!
на першым крутым
павароце дарогі
за Нёмнам

## ****спім*

лінія сэрца па-над вадою
чарот горнецца да неба
а цішыня! а цішыня...
за сто кіламетраў заплакала дзіцё
за дзвесце — маці спявае калыханку

засынаем у намёце
святло вогнішча зазірае да нас:
ці спім?
спім... не сумнявайся...
стомамі ўсімі стомленыя
духам зямлі адухоўленыя
шчасцем вяртання ашчасліўленыя
спім...

## ***могілкі

пасярод маёй краіны — могілкі
з прытаптанымі, забытымі магіламі
з вывернутымі і разбітымі
надмагільнымі помнікамі і крыжамі

сцежкай праз могілкі людзі ходзяць у краму
нясуць адтуль у клунках алей і цукар
ідуць, пакурваюць і думаюць
                                        пра несправядлівасць
што дзеецца ў гэтым свеце

ступаюць на косці продкаў
якія жылі, кахалі, змагаліся за родны край...
і ніхто з іх не пакаўзнецца і не грымнецца
на гэтую зямлю, каб адчуць яе роднасць

### ****грэх-2*

трымай, ён у тваёй руцэ
бяры, яна ў тваіх руках
яблык паўзе да змяі
граху яшчэ няма
нам прыдумваць імёны
жывёлам, сабе і зоркам
нам пачынаць жыццё

і чакаць дзесяць тысяч гадоў
калі Бог зноў вернецца

## ***лодка

вастраў без берагоў
на беразе акіяну міжземнага
мяне прытуліў пад шатамі дрэваў сваіх
ўратаваў ад ветру сцюдзёнага
ад снегу сляпучага
а калі развіднела — лодку мне паказаў
але я так і не знайшоў бераг
ад якога адчаліць мог
выплысці ў акіян маркотны...
значыць, лёс мне жыць і памерці тут
на востраве без берагоў
пад шатамі дрэваў ласкавых
ля лодкі, што хацела мяне ўратаваць
я сам не ведаю ад чаго...

няўжо ад смерці на востраве гэтым
дзеля смерці на востраве іншым?

## ***рана

кроў ідзе з носа —
значыць, жывы...

нягеглы сабачка
скочыў пад колы

стаім вось над ім
жыццё — міліметр
болей трохі ці меней
а вынік адзін для ўсіх —
крыж над сыпкім грудком

лепш рана, чым ніколі
лепш потым, чым цяпер

## ***там

рачулка звысоку — змяя
сонца адбіваецца на скуры яе, на выгінах:
і там, і там, і там...
хто ловіць гэтых «зайчыкаў» у небе й на зямлі?
хто іх заўважае?
ластаўкі над кустамі шукаюць мошак
каровы на лузе выбіраюць смачнейшую травінку
жабка скача заклапочана ў цень
чалавекі пралятаюць міма ў сваіх машынах-трунах
і толькі дуб стаіць аслеплены прыгажосцю
якая нікому не трэба...

## ***радзіма

дарогі паверх дарог

неба чарнее ўсім нам
дзень пасярод дня знікае
і
не стаўшы ноччу
робіцца ранкам —

дарогі застылі ў чаканні

пуста — ні душы, ні крыку
а дзень не новы
а дзень той самы

і вынік кроку ўлева
ці кроку ўправа
ўжо агучаны

***час*

штучнасць радуе, штукарства — не
шкадаванне прыходзіць потым —
з досведам самазахавання

маладосць панікуе і знікае
застаецца толькі памяць
якую будучыня не засціць

знаёмыя і незнаёмыя
постаці размываюцца
сплываюць маўклівымі воблакамі

як гэта справядліва:
тыя, хто сёння разумее цябе
заўтра стануць ворагамі

## ***страх-2

курчавы лясок сціпла прытуліўся
    да шырокай патыліцы крутога ўзгорка —
галавы волата, закапанага тут даўно
    па вусны за нейкую жудасную правіну
хвоі перагаворваюцца ў ягоных валасах
    як жывыя, лапочуць галінамі бы крыллем

гатовыя ў любы момант сарвацца
    ды паляцець у вырай: што згарыць — не патоне
рака сцяла вусны берагоў і моўчкі бяжыць адсюль
    хоць і ведае, што ад сябе не ўцячэш
дробны чалавечак пяці гадоў ад нараджэння
    шукае маму і горка плача —
ён згубіўся ў зморшчынах ілба волата сярод
    глыбокай травы, жорсткае лісце якой — нажы
а маці збірае суніцы — кропелькі непралітай крыві
    распырсканыя па патыліцы волата
слухае пошум хвояў трывожны, цяжкі
    і не чуе скрозь яго плач сына
ды раптам распростваецца і, агледзеўшыся
    кідаецца ўніз, да ракі
бяжыць моўчкі, толькі валасы распушчаныя
    лятуць услед за ёй, у роспачы, што адстануць
сына на беразе няма — яго няма нідзе:
    ні спераду, ні ззаду, ні ўверсе!
жанчына падае на калені перад рэчкай
    уздымае рукі да неба ў немым крыку, а потым
паварочваецца да галавы волата
    да паганскага капішча
якое збірае ахвяры ўжо тысячу гадоў
    і якое адно можа дапамагчы ёй цяпер...
і — о, цуд! — чуе, як плача сын... недзе тут...
    блізка... зусім блізка...
яна яго яшчэ не бачыць, але радасць
    напаўняе грудзі: «Жывы!..»
плач сына збягае з гары ўніз — да рэчкі...
    «Не пушчу-у-у!..» — крычыць адчайна маці

і падае
    губляючы прытомнасць

## ****цмок***

няўжо
змаганне са злом
толькі памнажае яго:
ссякаю галовы дракона
а на месцы кожнай збітай
вырастаюць дзве новыя

## ****крэўнае*

сяджу на беразе рэчкі крывавай
па якой рыбіны плывуць уверх пузам
ноч, а я іх бачу — луска блішчыць пад поўняй
рыбіна кроў халодная — кліча да нас зіму
я прашу: не трэба — жыта яшчэ каласіцца
птушаняткі толькі ў кубельцах з’явіліся
а рыбам ужо ўсё роўна — хай плывуць сабе ў мора...
куст лазовы схіліўся ў самоце і шэпча мне:
кроў хоча крыві, смерць прагне смерці
каб заставацца крывавай — рэчцы патрэбна кроў
табе, каб не загінуць дарэмна, варта пайсці дамоў
ідзі, толькі не пі крыві з ракі
ідзі, толькі не лаві, не збірай мёртвую рыбу
ідзі — ратуй жыта ад холаду
ідзі — ратуй птушачак ад маразоў:

цеплыні тваёй хопіць, каб сагрэць яе —
тую зямлю, якой ты прызначаны

## ***(...)

***1.***

ад нішто да няма —
жыццё
ад няма да нішто —
вечнасць

***2.***

лёгка сказаць: «Не бойцеся смерці!»
яшчэ лягчэй: «Я не баюся смерці!»
цяжка жыць чакаючы смерці
яшчэ цяжэй паміраць не чакаючы

## ****трамвай*

там, за фіранкай, самота
там, за шыбінай, роспач
вецер
і снег з дажджом
носяцца па-над зямлёю
шукаюць спакою між гмахаў

прыпынак, мокрая постаць
захутваецца ў сябе
і як алавяны жаўнерык
чакае далёкі трамвай
двое вачэй якога — дзве поўні
плывуць паміж снегам з дажджом
па небе, па небе, па небе

ніхто не выходзіць з трамвая
нішто пазірае з яго
фіранка, прыпынак...
зноў цемра
зноў вецер
зноў снег, дождж і роспач

і толькі самоты няма там
самоце утульней са мной тут —
ту-ту-тут, ту-ту-тут, ту-тут

## ***Ніда

### *1.*

мне добра тут, у Нідзе, як нідзе
я басанож іду пяском да мора
і апякаюся ягонаю халоднаю сінечай
вецер сваімі моцнымі рукамі
схіляе галовы хвоек
і без таго заўжды сагнутых...
ды — нескароных —
як і народ, што тут жыве спрадвеку

які таксама гнулі
то прусы, то тэўтонцы, то палякі
то нейкія там гуды
ды не схілілі
і не зламалі
бо мора і зямлі
ён моцу ў сябе ўвабраў
і так урос карэннем у пясок
як хвоі гэтыя —
каб ніякім вятрам яго не зрушыць

***2.***
вось фарбы, вось карціна, вось пейзаж
тут выдмы, тут хваіны
тут блакіт: неба і мора разам, непадзельна...
губляюся: то хмарак дробны пух адбіты на вадзе
ці хваляў пена адлюстроўваецца ў небе?
я не мастак, на жаль, я толькі бачу прыгажосць
але не ўмею захаваць яе для іншых
бег хваляў, плынь аблокаў мне не спыніць навечна
і плямамі зялёнымі на жоўтым ды белымі на сінім
я не здалею мысліць — я толькі назіральнік
маўклівы і самотны
і раптам заўважаю далёка справа жаўток сонца —
о, як яно дарэчы тут! якраз цяпер —
імгненна, на вачах, выдмы змаршчынелі
ды пастарэлі
і жоўтая дарога лягла па сінім моры
аж да небасхілу
вечар...
ні ветрыку...
спакой...
а злева гаспадыняй
поўня белая ўсплывае і ўголас кліча зоркі

## ***шчасце

я — жук на дроце
мне ні ўзляцець, ні ўпасці
за мною сочыць вока птушкі
і я ў ім, бы ў люстэрку, адпаўзаю...

я жыць хачу так моцна, што
сонца свеціць толькі ад майго жадання
памру я — і яно патухне...

...а птушка, раскрышыўшы мае крылы
шчаслівa ўсядзецца на дроце:
мяне ёй хопіць роўна на тры песні...

не думаў я, што жыў —
каб песняй стаць...

## ***пакаранне

я стану апошнім памерлым
мне не дажыць да вечнага жыцця
і я шкадую, што рана нарадзіўся
і я бядую, што рана памёр
аднак я згодны з Вечным Жыдам, што
вечнае жыццё ёсць пакараннем
толькі
мне хацелася б затрымацца тут
яшчэ на некалькі гадоў пасля смерці
дакладней — аддаліць смерць да часу
калі я сам скажу: «до!»

але не даступна мне гэта
мне дадзены гонар —
быць апошнім памерлым на гэтай Зямлі
за дзень,
        за ноч,
                за гадзіну,
                        за імгненне
да эры вечнага жыцця

## ***караблекрушэнні

***1.***

вада і неба: дзе неба, дзе вада?
чаму так лёгка мне:
                    я ў небе ўжо ці ўсё яшчэ ў вадзе?
я бачу карабель — ды ён мяне мінае:
між небам і вадой я ўжо хутчэй на небе?

я думаю, а ergo: я існую?
вада мяне трымае ці неба не прымае?

ўсё мокрае вакол, а мне зусім не мокра
ўсё цёплае вакол, а мне — мне так няўтульна
і страшна мора пакідаць: на дно спускацца
і весела па небе плыць —

спа-кой-на плыць
між воблакаў і чаек,
        не баючыся быць здзяўбаным...

***2.***
але
спакойна плыць
між мрояў і... шызоў
ніяк мне не ўдаецца
то коршак чыркане крылом
а то шчупак цярне лускою
тады я падаю на дно
з глыбінь нябёсаў
ці вышынь вады
ляжу з шырокімі вачыма
і ўсе, хто мяне бачыць —
думаюць:
памёр
таму спяшаюць міма
адварочваюцца
пазбыць каб лішні клопат

засну я...
і ўбачу сон —
што я лятучы карабель
і ў ветразях маіх пурпурна-пурпуровых
любіць хавацца сонца, як у хмарках
а я важу дзяўчат
цнатлівых і не вельмі
туды-сюды, сюды-туды...
туды-сюды, сюды-туды:
ад螺 мараў іх — да шчасця

і кожная мне дзячыць, як умее

## ***успамін

языкі агню — змяіныя, раздвоеныя
ліжуць неба, зоркі, чарноцце навакольнае
а безбароды кругламорды дзед
прыдурыўся поўняю
і недасяжна дрэмле між аблокаў
ранкам певень выйдзе на кастрышча
выдзяўбе ўсе зоркі — да адной
дзед бляшаны ўпадзе пад плот
і надыдзе ранак сонны ды маркотны
з нелюбімай кашай-манкай на сняданак

### ****страта*

тады я замкнуў дзверы
і пайшоў куды вочы глядзяць
праз тыдзень я ўбачыў раку
праз месяц — мора
праз год — акіян
бясконцасць неба наперадзе мяне не палохала
страшна было тое, што я застаўся адзін
зусім адзін: наперадзе нікога і ззаду пустэча
тады я кінуў ключ ад свайго дома ў акіян
і рушыў назад

праз тыдзень я ўбачыў хатку лесніка
праз месяц абмінуў вёску
праз год увайшоў у горад
у якім было шмат будынкаў
з дзвярыма, да якіх у мяне не было ключоў
я выбраў самую шырокую вуліцу
пакрочыў па ёй туды, куды яна вяла
і выйшаў да адзінокага дрэва

тым часам надышоў дзень
сонца свяціла мне проста ў вочы і сляпіла
туманіла галаву
я сеў у цень дрэва
нарэшце ў мяне з'явілася мажлівасць адпачыць
і падумаць
навошта я пакінуў свой дом?
навошта кінуў ключ у акіян?
і пашкадаваць
сябе, што не змагу
вярнуцца туды, адкуль выйшаў
да тых, каго пакінуў

я заплакаў, як плача чалавек
які нешта меў, але ўсё страціў

## ***безназоўнае

Беларусь — ад
БелаСтоку да Гомля
у СтакГольме
кожнай сваёй вулічкай
і далей —
азярцом, рачулкай ды мястэчкам
чытаецца інакш...

бо «ад дзеда-шведа»
і ад «варагаў у грэкі»
мы адышлі не так далёка
як можа падацца ў Менску...
і ад СтакГольма сёння
бліжэй да Беларусі,
чым ад Гомля да БелаСтока

### ***пара

стаптаны чаравік — апошні між апошніх
і той свой гонар мае ды цэніць пыл дарог
ён «кашы просіць», а таму ляжыць ля шляху
забыты ўсімі і нікому не патрэбны
аднак гэта зусім не значыць, што тут яму і згінуць
павольна паміраць пад снегам і дажджом — гнісці
травою прарастаць і ў самым лепшым часе
стаць домам мурашам ці схованкай жукам...
не горшы лёс: быць запатрабаваным —
хай мурашамі ці бліскучымі жукамі
хоць, звыкламу да падарожжаў, адзіны краявід
яму даўно абрыд, дый хочацца да пары...
кахання хочацца... а той,
                    з кім быў заручаны калісьці
цяпер ляжыць па іншы бок дарогі
побач з былым шыкоўным ботам — жаночым —
і пра яго забыўся
...здрайца... здрайца... здрайца!..

## ****комін*

хочаш — укалю цябе ўспамінам
болем праткну наскрозь
разам згадаем поле, і ноч, і крыкі ў небе
там птушкі лятуць сляпыя
б'юцца аб дрэвы галовамі
і падаюць, падаюць
на могілкі нізка пад імі
на чужыя пагоркі
каб потым узняцца і зноў слепа ляцець

ты — хлопчык на коміне высокім
які святло запальвае, каб не разбіў галаву самалёт
горад пад табой сцелецца вуліцамі і дахамі
дамамі — сцяна да сцяны
і толькі могілак роўнядзь вытыркаецца дрэвамі
але асіметрыя не палохае цябе
яна гарантыя болю
што праходзіць скрозь нас успамінамі
пакуль лятаюць птушкі і самалёты

## ***рабства

ну прабіў ты галавой сцяну —
прыслухайся, прыгледзься:
за ёй такая ж самая...

а сцяна ўжо шостая
ці сёмая: ты збіўся з ліку

ты збіўся з ліку
праломваючы сцены галавою
дык, можа, варта супакоіцца і жыць
паверыць словам, што ілжэ сусед:
прыйдзе час
і ў кожнага раба будзе па два рабы —
пераканаўча шэпча ён,
і абяцае шчасце

а тым часам сценаў вакол большае
а галава...
галава слабее
і баліць, баліць...

## ***ланцуг

горад так часта плача
хінецца да ног, бы шчанюк
ускідаецца, кладзе лапы на плечы
і ўзіраецца ў вочы
раптам стаўшы дарослым сабакам
ніхто не верыць у шчырасць ягоных слёз
і сяброўства з ім заганнае
ён, гуляючы, можа ўкусіць
а можа абгаўкаць маною
гораду ніхто не давярае свае думкі
бо іх адразу ж пачуюць усе
горад — няважна, стары ён ці малады —
мае віжоў на кожным кроку
добрыя русалкі тут жыць не хочуць
а дрэнных не запрашае ён сам
таму ты так і памрэш бабылём
у горадзе, які так не любіш
і параўноўваеш яго ўжо не са шчанюком
а са злым сабакам на ланцугу

## ***ноч 01.04.2014

*Помолись, дружок, за бессонный дом,*
*За окно с огнем!*
М. Цвятаева

шум шынаў ма-шынаў за акном
горад жыве сваім жыццём
і ноч яму не ноч, і ранак не ранак
адкуль у людзей столькі справаў
калі трэба спаць, адпачываць, набірацца сілаў?..
што прымушае іх сядаць за стырно
і ехаць у ноч праз ноч
і ехаць у ранак цераз ранак?
нехта вяртаецца дамоў
нехта едзе з дому ў аэрапорт, на вакзал
ці спяшае на рыбалку, каб заняць лепшае месца
кагосьці «хуткая» вязе паміраць
а кагосьці — выжыць і жыць
тры гадзіны ночы
з дзесяці машынаў за акном
сем — таксоўкі
што пакідае надзею:
гэта праца, толькі праца, абавязак...
у доме насупраць не свеціцца ніводнае акно
уяўляю, бо не бачу, што ў нашым доме
гарыць святло ў адным маім акне
і ўсе, хто едзе цяпер на машынах міма
заўважаюць яго, і нехта думае вершам Цвятаевай:
*«вот опять окно, там опять не спят*
*может, пьют вино, может, так сидят...»*
і нікому ніколі не прыйдзе ў галаву
што там цяпер пішуцца вось гэтыя радкі

## ***жаданне

у горадзе, дзе жыву
пчолаў даўно няма
і прусакоў ужо некалькі гадоў не бачыў
толькі качкі зімуюць тут
і пара лебедзяў

у горадзе, дзе мне накавана жыць
неба ніколі не бывае высокім
дождж тут гаспадарыць і летам, і зімой
сонца знікае нікуды, проста хаваецца за дамамі
няўжо інтэрнет,
        вайфай ды мабільнікі ўплываюць і на яго

у горад, дзе я сустрэну смерць
мне так хочацца вярнуць пчолаў
і сонца
хоць бы ў парк ці батанічны сад
хоць бы на час — сонца
і назаўсёды — пчолаў
а без прусакоў мы, людзі
дасць Бог, пражывём —
як-небудзь
хай знойдуць сабе
іншае спакойнае месца
як знайшлі качкі
і лебедзі

## ***ралля

хор трактароў выконвае эпіталаму
выараныя чарвячкі пахнуць зямлёю
ляніва варушацца ў жаданні вярнуцца дамоў

грушу-дзічку аблюбавалі шпакі
чорная птушыная хмара падае на раллю
крыкі смерці ніхто не чуе
спеў трактароў заглушае сыты гоман птушак

усё нараджаецца са смерці — нават хлеб
а значыць — смерці ўвогуле няма...
толькі
як могуць чарвячкі патлумачыць гэта птушкам?

## ***птушка

хворы верабей
скача на адной назе
другую падцяўшы пад сябе
так саграваe яе сабою

гляджу на яго і баюся:
вось-вось упадзе, паваліцца
і не зможа падхапіцца зноў

скок-скок-скок — верабейка хіліцца наперад
але не падае, а ўзлятае
абдзімае ветрам сваіх крылаў мой твар
і знікае

чаму я вырашыў, што ён хворы?

## ***Венера

бераг Прыпяці
намёт
нас двое ў цэлым свеце
вечар
нізка над ракою адна зорка
яркая-яркая
ты кажаш — Венера
я не настолькі дасведчаны ў астраноміі
каб спрачацца
хоць заўсёды меркаваў, што Венера ўлетку
ранішняя зорка, а не вячэрняя
нам добра і зусім не страшна
і блізка няма думак
што мы адныя
на гэтым беразе
і што вакол ўсё тое
што супраць нас
і нават выпадковыя людзі
якія могуць завітаць у гэты мілы куточак
будуць нам ворагамі
мы забылі пра ўсё
я бачу і чую — адчуваю! — толькі цябе
ты — спадзяюся і веру — толькі мяне
і гэта галоўнае
а не прырода навакольная
не асцярожная цемра
і нават не гэтая адзінокая зорка
на вячэрнім, светлым яшчэ
небе, якую ты называеш Венерай
і як доказ спяваеш раманс Багдановічаў
я згадваю цяпер той вечар і думаю:
вось яно — каханне
менавіта такім і бывае яно
толькі такім, толькі такім...

## ****геніііііі*

чытаю жыццяпісы пісьменнікаў
вядомых і проста вялікіх
дзіўлюся: як іх цярпелі —
калегі, сябры, жонкі, каханкі...
большых нягоднікаў, здраднікаў,
                                        вырадкаў, пачвараў
свет белы не бачыў
і як іх толькі зямля на сабе трывала?..
аказваецца, геній і зладзейства —
рэчы сумяшчальныя
і жыццё таго самага Пушкіна —
                                        найяскравы доказ гэтага
не кажучы ўжо пра іншых, каго лічаць
гіперталентамі ды супергеніямі чалавецтва

працягласць іхняга жыцця
зусім не залежала ад колькасці гора і турботаў
якія цярпелі ад іх самыя блізкія
а толькі ад шкоды, якую рабілі яны самім сабе

і, у залежнасці ад гэтага
адны паміралі маладымі
а іншыя дажывалі да глыбокай старасці

гэтаксама іхняя творчасць
колькасць ды якасць напісанага
абсалютна не адпавядаюць
ладу іхняга жыцця
бо п’янства ці цвярозасць
беднасць ці багацце
бадзяжніцтва ці затворніцтва
колькасць каханак, каханкаў ці цнатлівасць
пол, расавая прыналежнасць, вера...
ніякім чынам не ўплывалі
на раманы ды навелы, вершы ды п’есы
і таямніца іхняга таленту ды геніяльнасці
так і засталася для мяне таямніцай
апроч адное сентэнцыі, адное ісціны
якую мне, студэнту, сказаў
універсітэцкі выкладчык філасофіі
(марксіцка-ленінскай, бо іншай тады не было):
каб дасягнуць чагосьці ў жыцці
трэба ісці па галовах
не зважаць на родных і блізкіх, сяброў і калег
на крыўды і папрокі, слёзы і праклёны,
                                        плач ды енк
любіць толькі сябе адзінага,
                              жыць дзеля сябе адзінага —
іншага шляху да самарэалізацыі
іншага шляху ў... геніі
у гэтым несправядлівым свеце няма...

прызнаюся: я тады паверыў яму
але жыць гэтак не змог

## ****светлае*

дзяўчынка побач
саромеецца
я ціснуся да яе
а яна адсоўваецца
хоць лаўка хутка скончыцца...
мне шаснаццаць
ёй трохі менш
мне хочацца яе цяпла
не толькі таму, што летняя ноч
пад ранак золкая
і белы туман ад ракі дайшоў да нас
ахутаў ногі, абняў плечы
...яна баіцца майго дотыку
не толькі таму, што цела маё
палае жарам ажно іскрыць
проста ёй страшна тое, чаго мне хочацца
а мне хочацца таго, чаго яна баіцца
і развітацца мы не ў змозе
і пачынаць нам яшчэ рана
я не адважуся ўзяць тое, чаго хачу
а яна не падсунецца да мяне адчайна...

ранкам мы раз'едземся ў розныя краі
каб потым, праз гады
згадваць тую ноч
і шкадаваць...
сябе дурных

### ****поўня*

зацьменне сонца —
сёлета трэцім разам
нехта са словаў складае вершы
а нехта іх разбурае
камусьці холадна — зацьменне
камусьці весела, бо чарка ягоная зноў поўная —
як месяц, каторы якраз топча сонца
птушкі сьпяваюць гучна — ім страшна
хрушчы зляцелі з дрэваў
і бомкаюцца ў асветленыя вокны
ніхто, ачуўшыся, не паверыць
што дзень зараз вернецца
але спаць не кладзіцеся
толькі не кладзіцеся спаць:

перацярпіце!

## ***даволі

не схаваешся ад сябе
ні ў цёмнай пушчы
ні на дне акіяну
ні на стадыёне
сярод тысячаў заўзятараў
боль, які табе баліць
не пакіне цябе нідзе
і чым далей ты будзеш ад Айчыны
тым бліжэй яна будзе табе
Праметэй, прыкуты да скалы
быў больш вольным
Сізіф, унураны ва ўскочванне Каменя
быў — вольным
Адысей у пячоры Паліфема
быў — вольным
Ікар быў абсалютна вольным у сваім падзенні
і нават Хрыстос меў мажлівасць выбару...
а ты — не прыкуты...
...не ўнураны...
...з правам выбару...
сядзіш у сваёй пячоры-кватэры
ды скардзішся на лёс
шукаеш — і знаходзіш! — вінаватых
ды дзьмухаеш на свае болькі
шкадуючы сябе
сябе, заўваж, сябе...
ты ёсць, агледзься, ты Ёсць
дык што яшчэ табе патрэбна ведаць
каб не хавацца ад сябе
а — каб Быць...

## ****сэнс*

шукаю логіку там, дзе яе няма і ніколі не было
шукаю цнатлівасць там,
                                дзе нават не ведаюць, што гэта такое
шукаю праўду
шукаю свабоду
і натыкаюся на сцяну
вушы мае не чуюць мяне
вочы мае не бачаць мяне
язык мой не кліча мяне

а вакол мяне словы, словы...
мне кажуць: кожны — асоба
мяне пераконваюць: кожны варты павагі...
а я гляджу на забітых без вайны
і не веру нікому...

нікому...

### ***інтэрнат

нявер’е падымае нагу і топча, топча бязвер’е
крык стаіць на ўсе пяць паверхаў інтэрната
нібыта шкадлівага ката таўкуць мордай
у ягонае лайно
– Сашка, прабач!.. Прабач, Сашка!.. –
толькі і чуваць ахрыплы голас
які пераходзіць у істэрыку з захліпаннем
у слязах і соплях
нявер’е не хоча верыць,
нявер’е не верыць бязвер’ю
нага апускаецца і апускаецца на бязвер’е
і крык, прарваўшыся праз столі ды форткі

ляціць у неба да нябачнага Бога
стары кот з пераляку скача з даху ўніз
прызямляецца на чатыры лапы
і хутка знікае за рогам крамы
сюды ён больш не вернецца, хоць тут
і ягоная радзіма
хоць тут ляжаць косткі ягонай маці,
братоў і сясцёр
нявер'е не прымае здраду (а хто яе любіць?)
хоць часта здраджвае само
бязвер'е таксама не любіць здраду
(але саступае спакусе)
ніхто не любіць чужую здраду,
хоць і апраўдвае сваю
Сашка не прабачыць, Сашка проста з часам
даруе — «забудзе»
як і ўвесь інтэрнат, які прывык
да падобных крыкаў
у іх змяняюцца толькі імёны:
Васька, Колька, Віцька, Антон...
прабач, прабач, прабач...
і прабачаюць не прабачыўшы,
і даруюць не дараваўшы
а калі «цярпенне сканчаецца» —
Валянціны, Ірыны, Алесі...
сыходзяць моўчкі, без ляманту ды мардабою
сыходзяць ад Сашкі да Ваські,
ад Віцькі да Антона
такі вось кругазварот кахання ў краіне,
дзе няма сексу
і ва ўсёй гэтай нявыдуманай гісторыі —
шкада толькі аблезлага ката
адзінага праведніка ў ваколіцах інтэрната
які сышоў і не вярнуўся

## ***Сакрат

п’е цыкуту, п’е цыкуту, п’е...
павольна
бы расцягваючы задавальненне
з куточка вуснаў
па барадзе цячэ ручаінка зяленіва:

не хоча, не хоча, не хоча...
цыкута
цыкута не хоча несці смерць
але не можа не несці

а ён п’е цыкуту, п’е цыкуту, п’е...
і вочы развітваюцца з роднымі
з жонкай
з вучнямі, якіх кахаў
з дрэвамі, з кветкамі
з пчоламі, з мятлікамі...
развітваюцца і заплюшчваюцца
заплюшчваюцца
                    заплюшчваюцца

каб расплюшчыць вочы нам

## ***мара

зярнятка зямлі між салёнай вады —
куды ты плывеш?
і навошта клічаш мяне да сябе?
вядома, я хацеў бы, каб мая краіна
мела выхад да мора,
а на моры каб быў у нас востраў
хай сабе і такі ж маленькі, як ты —
зярнятка зямлі між салёнай вады...

я пабудаваў бы на ім сабе дом
пасадзіў дрэвы
не пальмы, а нашыя —
бярозкі, дубы, клёны
і ліпы для пчол
каб прыляталі яны з недалёкай зямлі
сюды па мёд

## ***каханне

калі я бываю дома —
я не зачыняю дзверы на ключ

калі я гуляю па лесе —
я не зрываю ягады без патрэбы

калі я купаюся ў возеры —
я не заплываю далёка

калі я кахаю цябе —
я кахаю цябе

### ****было*

мільён гадоў таму
я ўжо быў тут
і бачыў сонца
блізка-блізка
яно было гарачым
і — салодкім
пілося, як кава

цяпер
калі я распавядаю пра гэта
мне не вераць
«як кава?» — перапытваюць
«салодкае?» — дзівяцца
«смачнае?» — здзекуюцца

я не спрачаюся
і не апраўдваюся
я замружваю вочы
і згадваю
салодкі смак
на вуснах —
той самы
што і мільён гадоў таму

## ***камарыкі

вечар
дождж
камары лётаюць між кропелек
чым спарнейшы дождж
тым болей камароў вакол мяне
кроплі даждждю буйныя
роўныя камарам
ляцяць хаатычна
я не магу паверыць вачам:
ні адна кропля не трапляе ў камара
хоць дождж падаецца мне
густым, суцэльным
залевай проста
а камары лятаюць і лятаюць
між дажджынак
між струмянёў вады
і толькі калі сядаюць на мяне —
дождж іх змывае

## ****жыццё*

па сутнасці — умець лятаць не абавязкова
рост — таксама не важны
тут улічваецца толькі розум
і тое — рэдка...
гэтая гульня нечым падобная да шахматаў
але не кожную гульню можна назваць гульнёю
прынамсі тут, у гэтай краіне
дзе жыццё само ёсць гульня
з загадзя вядомым вынікам

мы зноў выходзім на поле і гуляем
мы ведаем, што прайграем
і яны, нашыя супернікі, таксама ведаюць,
што прайграюць
бо пераможцаў не бывае ў гэтай гульні
такой падобнай да шахматаў
дзе фігуры — мы і яны
і вынік загадзя вядомы
але — калі б
калі б усё-ткі мець крылы...

## ***пра тое ж

вы сустрэліся ў трамваі
што ішоў на поўнач
горада, у якім вы жылі
тады

вашыя прыпынкі шчасліва супалі
і дом апынуўся адзін і той жа
і пад'езд, і нават паверх
толькі кватэры былі розныя

ты прыйшоў дамоў
а яна ў госці
але і выйшлі з гэтага дома
вы таксама разам
яна — каб ісці дамоў
а ты — каб ісці з ёю
па жыцці
каб ісці з ёю разам праз жыццё

мінула сто дажджоў з таго дня
мінула сто снягоў з таго дня
узышло і зайшло тысяча сонцаў
трамвай больш не ходзіць на поўнач
на-ша-га горада
змянілася ўсё — нават назвы вуліцаў
сталі іншымі
па-ранейшаму толькі
твая рука ў маёй
і мая рука ў тваёй

## ****табе***

чуеш, як працінае зямлю трава?
бачыш, як зелянее наваколле?
гэта я прыдумаў, каб так было — для нас
я люблю слухаць музыку травы
я люблю бачыць зялёны колер
і ніхто ніколі мяне не пераканае
што гэта не прыгожа

а неба, павер, павінна быць блакітным
а воблакі на ім — белымі, бялюткімі
няўжо гэта не прыгожа?

воблакі павінны плысці бязгучна, моўчкі
каб не заглушыць музыку травы:
ціша ў небе і музыка на зямлі —
хіба гэта не прыгожа?

## ***пераход

машына маўкліва адбяжыць на пару крокаў
і спыніцца піскліва
паважна выпаўзе з яе змяя
з блакітнымі вачыма і валасамі белымі,
                                        як мёд з акацыі
зноў фарбаваная бландзінка — засумуеш ты
табе ніколі не шэнціла
і асабліва
калі ты быў не вінаваты ні ў чым
ты стоена ляжаў на пешаходным пераходзе
ты пазіраў, як па-во-ль-на выкоўзваецца бландзінка
з цела машыны:
калі дзверы расчыніліся і паказалася адна нага
доўгая, як смерць
белая, бы чарнобыльскі пыл
ужо тады табе стала вусцішна
ты хацеў падхапіцца і сысці адсюль
збегчы
бо ляжаць на асфальце было нязручна —
                                        цвёрда і холадна
а яшчэ гэтая ліпкая — б-р-р-р! — лужына крыві
доўгая — на дзве... тры... чатыры... белыя паласы
і ў ёй
так не ў час прыгожа
адбіваюцца блакітныя аблокі і жоўтыя дрэвы
але ты не змог падняцца, ускочыць адразу, а таму
моўчкі пазіраў, як коціцца машына крок за крокам
спыняецца, і з яе паказваецца змяя
з чырвонымі, нафарбаванымі вуснамі
падцятымі зацята
і таму вочы яе
табе падаюцца злымі-злымі
і бліскучымі зусім не ад слёз

## ****сад*

даруй мне —
стары яблыневы сад
не змог я цябе абараніць
і цяпер мне няма ў каго прасіць прабачэння
але
спадзяюся, ты мяне пачуеш...
добра, што не стаў ты вуголлем
добра, што карані твае засталіся на радзіме
быць паперай — не горшы лёс
(хоць лепш усё ж быць садам)...
так, але прыходзіць час выбару
(без права выбару) прабач
я не здалеў цябе ўратаваць
бо старасць і смерць непазбежныя
і любяць прыходзіць разам
прабач мне, стары яблыневы сад
што не збярог цябе
але — мажліва — ты станеш кнігай
а ў мяне нават такой будучыні няма...
гэта не апраўданне, тым болей не скарга
проста цяпер нашыя шляхі разышліся канчаткова
і больш мы ніколі не ўбачымся

## ***навошта

ты мне жанчына
а я табе хто?

учора яшчэ галіўся
змываў стыгматы — не змыў
цяпер сяджу, чытаю
літары азіраюцца, пераміргваюцца
пальцамі круцяць каля скроні
і паказваюць на мяне — ідыёт! ідыёт!
дарэмна:
я рухі іхнія не заўважаю, я думаю
так, я думаю: хто я табе?

учора яшчэ нам смяялася сонца
хмары гушкалі нас
маці радавалася табе
бацька ганарыўся мною
цяпер сяджу — чытаю
думаю: няўжо «і гэта пройдзе»?..

хто ты мне цяпер?

## ****сталеем*

крышку дабрыні
не зашкодзіць нікому
асабліва ў зносінах
са старэйшымі

крышку спагады
не зашкодзіць нікому
асабліва ў зносінах
са старэйшымі

крышку павагі
не зашкодзіць нікому
асабліва ў зносінах
са старэйшымі...

а лепей, каб не крышку
а лепей, каб напоўніцу
без надзеі, што гэта вернецца
калі пасталеем і мы самі
а проста — а толькі — а выключна —
дзеля дабрыні, спагады, павагі
да... старэйшых

## ****рай*

хочаце — верце, хочаце — не
але ёсць яшчэ на свеце мясціны
дзе спачываеш душой...

я ведаю адну такую
прыветную і мілую
спрадвечна беларускую
*лю*бую ўсім, хто там бываў
мясцінку

там на возеры — плаваюць лебедзі
там у рачулцы — жывуць бабры
там бусел клякоча
з гнязда на высокім дрэве
пчолы гудуць у духмяных кветках
і зайчыкі ядуць траву з маіх рук...

ніхто мне не верыць
смяюцца, нібы з прыдумкі
а я там бываю
раз на тыдзень
і адпачываю душой

## ****надзея*

святло над возерам
ціхае, ветлае
так і хочацца зачарпнуць яго
поўныя прыгаршчы
і напіцца
наталіць сябе спакоем
мудрасцю, дабрынёй і веліччу
Радзімы
каб назаўсёды паверыць
у яе светлую будучыню
і не расчароўвацца тым
што ёсць часовым...

## ****страхі: цень-сабака-вуж*

***1.***
могілкі за дарогаю
страшна ісці паўз іх
кажуць:
адтуль вылятаюць белыя цені
нябожчыкаў
і ганяюцца за жывымі —
а калі дагоняць
накідваюцца і душаць...

ніхто ніколі іх не бачыў
але ўсе ведаюць пра гэта
і вераць, што яны ёсць

я іду па дарозе
паўз могілкі
і ўвесь час мне здаецца
што за мною цікуе
ляціць услед белы цень —
той самы —
і вось-вось дагоніць...
але азірнуцца,
сустрэцца з ім вачыма
баюся
і прыспешваю хаду

увечары кладуся спаць
згадваю, як удзень

ішоў паўз могілкі
бачу сябе ў цемры
на столі павек
і сачу за белым ценем, які крадком
рухаецца за маімі плячыма:
страшна!
але я засынаю
стомлены
каб ранкам прачнуцца
і не згадаць
нічога —
а проста
жыццё сваё
працягнуць
ці прадоўжыць?

***2.***
сабака ўкусіў мяне:
дагнаў і цапнуў за лытку
з кропачак выцекла кроў
намачыла штаны
але на зямлю не ўпала

не памятаю, балела мне ці не
памятаю жах, ад якога валасы
падымаюцца на галаве —
таму і шапка зляцела:
я ўжо дабег да кварткі —
зачыненая
тут ён мяне і дагнаў
хапануў за калашыну
і сам спалохаўся —
адбег моўчкі, вінавата
відаць, пазнаў, бо завіхляў хвастом

быццам прабачэння просячы
і кажучы:
навошта ж ты ўцякаў
ад мяне?

што мне цяпер адказаць яму?
нага даўно загаілася
штаны зашытыя, знасіліся
толькі памяць не гоіцца
і не зношваецца
заплюшчу вочы
і спінаю адчуваю:
даганяе...
вось зараз укусіць

***3.***
вуж за мною пагнаўся
на Узвіжанне
ляснуў хвастом, як пугаю
але ног маіх не дастаў —
я на пень ускочыць паспеў

па-царску, з высока
ўзнятаю галавою
нібыта на ёй і сапраўды
была карона
адпоўз вуж
поўны ўласнае годнасці...

а я ўсяго толькі
хацеў грыб зрэзаць
які ён знайшоў
і абняў сваім целам

## ****вада*

***1.***

кропля вады жыла ў Партугаліі
потым пераехала ў Іярданію
выйшла замуж за араба
і прыняла ягоную веру
ёй хацелася зрабіць шчаслівымі ўсіх —
асабліва тых, хто гадамі пакутуе без вады:
тушканчыкаў у пустэльні
і мудрых жукоў-скарабеяў

адчай перапоўніў яе, калі ўбачыла яна праўду

праз самагубства вярнулася кропля на неба
сабрала мільёны сваіх сябровак
яны разам упалі і ўтварылі возера-мора там
дзе была пустэльня
з'явіліся рыбы і кракадзілы
але не стала тушканчыкаў
і мудрых жукоў-скарабеяў

цяпер
да кроплі-возера
араб водзіць паіць вярблюда
і водзіць паіць каня
з прагнымі брыдкімі губамі
узіраецца ў ваду і бачыць сябе ў ёй
бы ў люстэрку
і не бачыць сваю жонку
якая знікла ў моры-возеры
разам з тушканчыкамі

і мудрымі жукамі-скарабеямі

***2.***

смяртэльны бой між мухай і сланом
я назіраў на беразе Замбезі
спякота падала на свет, п’ючы ваду
імгнення, на вачах, ніцела рэчка...
і кропелька вады дала б жыццё тысячам тысяч мух

а што яна слану...

слон па калена ў вадзе смактаў вільготны бруд
ды абліваў сябе ім —
пара знікала
вяртаючыся небу, не рацэ...
каб выгнаць небяспечную пачвару, муха
кружляла па-над слізкаю спіною
і ў роспачы крычала на ўвесь свет праклёны

ды што яны слану...

дапусцім, без вады памрэ слон — не заўтра, але хутка
не дацягнуўшы да сезону навальніц
не маючы нашчадкаў — і знікне радавод магутны
а муха ў глеі выведзе дзяцей
                                і выгадуе ў гары слановай
каб свет наноў пачаўся з мухі
і не было ў ім больш сланоў

пэўна, так хоча муха

а слон, між іншым, адным вокам сочыць за ёю, каб
усмактаць назолу разам з мутнай жыжкай
і калі знікнуць, дык не на самоце...

жыццё мудрэйшае — на дальнім беразе Замбезі
пасвіцца слон у сакавітай зяляніне
і над яго дзярмом
лятае муха...

мусіць, так хоча Бог

## *Шляхі*

***1.***

у той дарозе
мы ўсе перасварыліся
нават самыя цярплівыя і талерантныя
білі морды адзін аднаму
і падманвалі сваіх і чужых жонак
а самыя верныя жонкі
падманвалі сваіх і чужых мужоў
і абражалі іншых жанчын
называючы іх шлюхамі
але любы шлях мае асаблівасць
скончацца
нават жыццё не вечнае
тым болей — дарога
хоць яна часам бывае даўжэйшай за жыццё
мы стаялі на раздарожжы
перад намі было адразу пяць новых шляхоў
і кожны мог пайсці сваім
але так хацелася павярнуць назад
толькі б не развітвацца і не разыходзіцца
яшчэ смылелі падбітыя вочы
яшчэ гарэлі падрапаныя шчокі і вушы
а злосці і нянавісці ўжо не было
усё зацьміла шкадаванне
што давядзецца расстацца
была роспач і страх перад невядомай дарогай
не было толькі жадання разбіцца на купкі
сусед справа, канечне ж, сволач, але...
сусед злева, вядома ж, ёлупень, аднак...
я, прызнацца, таксама не анёл — і
разам мы прайшлі такую дарогу

разам мы столькі нацярпеліся
адзін ад аднаго
што на цэлым свеце для нас
няма нікога больш роднага
бяда толькі ў адным:
няма і не будзе між намі роўнасці
сусед справа бярэ сілай
сусед злева — хітрасцю
а я — розумам
але менавіта я найчасцей прайграю ім
і кожны з нас прайграе сваім суседзям
кожны з нас пераможца і пераможаны
таму і няма сярод нас лідара
які павёў бы ўсіх за сабою
на гэтым раздарожжы, на гэтых ростанях
дзе нам трэба развітвацца...
і мы, бачу, замест таго, каб ісці наперад
разам і наперад
пойдзем назад, абы не дзяліцца
ці першы раз падыходзім мы да гэтых растанцоў
да гэтага раскрыжавання?..
я не памятаю, а дзед мой падказвае: не, не першы
ён быў ужо тут
і тады разам з усімі
павярнуў назад
баючыся новых невядомых шляхоў
і цяпер паверне
бо лепей з усімі разам вяртацца туды, дзе ўжо быў
чым першаму йсці ў невядомасць...
так думаў кожны
і ніхто не хацеў узяць на сябе
адказнасць быць першым
бо кожны баяўся, што застанецца адзін:
ніхто за ім не пойдзе —
усе астатнія зноў, па звычцы, павернуць назад...
мяне палохала невядомасць не менш за астатніх
але мяне яна вабіла больш за іншых

і я пайшоў, не спыняючыся на скрыжаванні
не выбіраючы шляху — адным з пяці
я пайшоў проста наперад па дарозе
што ўпала пад ногі
я ведаў:
ніхто за мною не пойдзе
я йшоў не азіраючыся
і мне так хацелася думаць
што я памыляюся

***2.***

усе дарогі доўгія
нават найкарацейшыя —
тады, калі ты ідзеш адзін...
час запавольваецца —
ты крочыш, а ён спыняецца, стаіць
і глядзіць табе ўслед
ты азіраешся і не бачыш нікога
вочы твае спатыкаюцца
аб дрэва далёкае — на ўскрайку жыцця
чапляюцца за жаваронка ў небе
дрэва адно і жаваронак адзін
і ты адзін ва ўсім свеце
пад адзінотным сонцам...
о, як самотна сонцу!
усё жыццё стаяць на адным месцы
і не бачыць нічога, апроч
некалькіх шарыкаў, што
імкнуцца да цябе, але ніяк
не могуць дапяць, а толькі
круцяцца ды кружацца вакол...
і як хочацца яму дамкнуць
да тых зорак-сясцёр
зорак-братоў
зорак-жанчын і зорак-мужчынаў
што ўсміхаюцца здалёк
і клічуць да сябе

але і самі не могуць нат зрушыць
са сваіх месцаў...
гледзячы на сонца
ты забываеш пра сваю адзіноту
час даганяе цябе, і вы
разам, у згодзе, рушыце наперад

усе дарогі сканчаюцца
у кожнага шляху апроч пачатку
ёсць і канец
нам добра — любая кропка можа стаць пачаткам
і любая — канцом
не шлях нас выбірае, а мы яго...
я люблю хадзіць напрасткі
без дарогі
мама не раз папярэджвала мяне:
«хто прастуе, той дома не начуе»
але я заўсёды ішоў напрасткі —
ідучы дадому
і ніколі не збіваўся з дарогі
мне шкада было часу, а
найкарацейшы шлях — найкарацейшы час
і калі хочаш, каб час не абганяў цябе
і даваў мажлівасць
зрабіць яшчэ нешта, апроч таго
што наканавана
абганяй яго: гіпатэнуза
заўсёды карацейшая, чым сума катэтаў
сэканомлены час і ёсць твая адзінота
твая мажлівасць пабыць на самоце
у пярэрве між тым, адкуль ты пайшоў
дзе з табою ужо развіталіся
і тым, куды ты прыйшоў
але дзе цябе яшчэ не чакаюць...

нельга знайсці адзіноту
можна толькі падмануць час

## *Настальгія*

***1.***

дзверы шырока расчыненыя на мора
запрашаюць увайсці ў дом

я ведаю: там жыве адна жанчына
мы з ёю бачымся кожны дзень

звычайна яна сядзіць ля акна

ёй столькі ж гадоў, колькі і мне

мы незнаёмыя, але мы ведаем адно аднаго
мне здаецца, я магу распавесці пра яе шмат
думаю, і яна пра мяне таксама
хоць мы ні разу нават не размаўлялі
хоць мы народжаныя ў розных краінах
і бачымся толькі здалёк

у яе чорныя, як пераспелыя вішні, вочы

штораніцы я праходжу каля расчыненых на мора
дзвярэй ейнага дома
мы не вітаемся — так тут, пэўна, прынята,
думаю я — чужы ў чужым краі

я ніколі нікога не бачыў побач з ёй
і сам я таксама заўсёды адзін

да бліжэйшага мястэчка два *км* па беразе
яе чорныя валасы заплеценыя ў нетутэйшую касу
я не ведаю калі і адкуль яна з'явілася тут
калі я прыехаў сюды жыць
і першы раз ішоў гэтым берагам
дзверы ейнага дома былі
ўжо шырока расчыненыя на мора
а чорныя, бы пераспелыя вішні,
вочы ўзіраліся ў далеч...

ейныя аголеныя плечы не ведаюць загару
ёй столькі ж гадоў, колькі і мне
прынамсі, так думаю я

***2.***
я люблю хадзіць берагам мора паўз ейны дом
мне падабаецца бачыць яе ля акна
мне не страшныя яе чорныя-чорныя вочы
а каса нагадвае мне пра дом, пра Радзіму
і пра дзяўчыну, якую я пакінуў там
толькі каса ў той дзяўчыны русая,
а вочы — блакітныя
як неба над маёй краінай
як азёры ў маёй краіне

але тут мяне хвалюе і прымушае думаць пра яе
гэтая жанчына каля акна

добра, кажу я сабе, сёння пайду іншай дарогай
ведаючы, што іншай дарогі тут няма
добра, кажу я сабе, не буду глядзець у ейны бок
прайду, і не заўважу расчыненых на мора дзвярэй
злаўлю на небасхіле далёкі ветразь
і буду глядзець толькі на яго
мне абсалютна нецікавая гэтая чужая жанчына —
кажу я сабе — яе няма
яе проста няма сёння каля акна

я іду і здрадлівым бакавым зрокам
бачу ўвесь ейны дом з дзвярыма,
                                    расчыненымі на мора
бачу яе ў акне, і мне падаецца
што яна прыветна ўсміхаецца
прытоена, куточкамі вуснаў толькі, як Мона Ліза...
як Мона Ліза з даўгой чорнай касой між грудзей...

*3.*
з гэтых шырока расчыненых на мора дзвярэй
ніхто ніколі — ніводнага разу — не выйшаў
ніхто ніколі — ні разэчку — не ўвайшоў у іх
і я пачынаю думаць, што з гэтага дома да мястэчка
пад зямлёю пракладзены тунэль
па якім жанчына ходзіць у мястэчковыя крамы
па якім да яе прыходзяць родныя і госці
бо павінна ж у яе быць нейкая сувязь
з тым, што мы называем знешнім светам
ну проста светам, у якім мы жывём
і ў якім я ніколі не бачыў яе

каб супакоіць сябе, я пачынаю думаць
што гэты дом пусты
        і даўно пакінуты ранейшымі гаспадарамі
і то не постаць жанчыны, а ейны партрэт
выстаўлены ў акне...
але, калі наступным ранкам,
праходзячы міма, я адкрыта гляджу на акно —
бачу, як жанчына даплятае касу
а потым перакідвае яе
                    з левага боку (грудзей) на правы
і пры гэтым на твары ейным ніякіх эмоцыяў
ейны позірк не сустракаецца з маім
яна нібыта глядзіць скрозь мяне
глядзіць удалеч, на той самы ветразь на небасхіле
які быў там учора і пазаўчора
і ветразь гэты не пурпуровы

і не чорны, а звычайны — белы
«яна сляпая...» — працінае мяне здагадка
таму ў яе такія вялікія чорныя
як пераспелыя вішні, вочы...

жанчыны нібыта чытае мае думкі
і ў гэты момант упершыню за ўсе дні
маіх вандровак
каля яе дома, з расчыненымі на мора дзвярыма
падымае руку і ветла махае мне

я азіраюся, не верачы: мне ці... ветразю?
мне... я разумею гэта і бачу
што яна запрашае мяне ўвайсці...

***4.***
не, я не адважыўся зайсці да яе
зрабіў выгляд, што не заўважыў запрашэння
ці не зразумеў, што прызначанае яно мне
прайшоў міма расчыненых на мора дзвярэй
а яна не выйшла на парог
не кінулася за мною ўслед
пакінуўшы мне яшчэ больш загадак:
хто яна? якая яна?
і —
а можа, ёй была патрэбная мая дапамога?

усю дарогу я ўшчуваў сябе, дакараў:
за нерашучасць, за баязлівасць...
за нечуллівасць, неабачлівасць,
за чэрствасць і... жорсткасць
за страх перад невядомым
і думаў, як цяпер пазбавіцца сваёй віны
перад гэтай мілай жанчынай
з вачыма чорнымі, як пераспелыя вішні
і нетутэйшай касой між грудзей...
і як пераадолець сорам вяртання паўз ейнае акно

бо ў мяне няма іншай дарогі дамоў
апроч той, што ідзе паўз дом
з заўсёды расчыненымі на мора дзвярыма

*5.*

так сталася, што гэтым разам
дамоў я вяртаўся ноччу
позняй ноччу, у дождж,
які зрабіў тую ноч зусім чорнай
чорнай, як вочы жанчыны, як ейная каса...
і я ішоў берагам мора, арыентуючыся
на плёскат блізкіх хваляў

у ейным доме не было святла
і я прайшоў паўз яго, не ўбачыўшы яго
а тым болей — яе
і мой сорам застаўся пры мне
некранутым, неспалоханым
назаўжды...
бо назаўтра, калі я падышоў да ейнага дома
заўсёды расчыненыя на мора дзверы —
былі зачыненыя
і на іх вісеў вялізны замок

сваю таямніцу яна забрала з сабой
а я, вось ужо трэці месяц,
праходзячы штораніцу паўз дом
з заўсёды зачыненымі дзвярыма
думаю: а ці была яна ўвогуле?
ці не прыдумаў я тую жанчыну сабе
каб не забыцца пра іншую —
з вачыма блакітнымі,
як неба над маёй мілай краінай
як азёры ў маёй роднай краіне

і русаю касой...

## *Вечнасць*

***1.***

у рэшце рэшт
тут
усё зарасце травой
і нават птушкі
будуць маўчаць, бы намаляваныя...

так ужо сталася:
людзі кожны дзень п'юць ваду
з таго возера, якое штогод
забірае з вёскі
то аднаго хлопца
то адную дзяўчыну
а бывае і адразу некалькі
і вязе на сабе ў блізкі горад

сонца звычайна свеціць ім услед
і доўгія цені ранку
першымі кранаюцца берага
першымі ўваходзяць у горад

ніхто не лічыць гэта сімвалічным
нікому не карціць
напіцца з возера
да якога яны больш
ніколі не вернуцца
і човен згніе, чакаючы іх назад

гэта не горад мёртвых
і не мёртвы горад
таму ён іх і не адпускае
зачароўвае сваімі спакусамі

часам нейкі гараджанін
нядаўні вясковец
выйдзе да возера
і, зірнуўшы на чырвонае кола сонца над вёскай
павернецца да свайго ценю
і цень павядзе яго назад
у горад...
а калі ўсё ж нехта адважыцца
пераплыве возера
і ўвойдзе ў вёску
цягнучы за сабой цень свой
яго там ніхто не сустрэне
а тыя, хто будзе сачыць за ім з вокнаў
яго не пазнаюць
не выйдуць, не прымуць, не абдымуць...
і ён пройдзе скрозь вёску
спыніцца на могілках
ля магілаў, якіх ён не капаў
ля крыжоў з прозвішчамі тых, каго ведаў
вачамі будзе шукаць
сваю магілу і крыж з надпісам
і ўбачыць адразу некалькі
але ўсё гэта будуць ягоныя поўныя цёзкі
бо людзі ў вёсках так любяць паўтарацца
ва ўсім, але найперш у прозвішчах ды імёнах
аднак на ніводнай з магілаў
не супадзе пачатковая дата жыцця з ягонай
а што ўжо казаць пра канцавую
калі ён стаіць тут

па дарозе назад
на ўскрайку вёскі
ён у полі сарве і пажуе каласок
тры васількі возьме ў жыце жонцы
і вернецца да возера...
а ўсе, хто глядзеў яму ўслед з вокнаў
выйдуць да веснічак
пакладуць рукі на платы
а галовы на рукі
і будуць назіраць
як цень ягоны кранаецца процілеглага берага
як выходзіць ён стомлены і знясілены
ды брыдзе туды —
у той горад
адкуль не вяртаюцца
нават на могілкі

***2.***
што ёсць у горадзе тым?
першым просіць згадаць яго
дым
не таму, што ў рыфму
а таму што — вакол, усюды ён, ён, ён
толькі ён
ім дыхаюць, з ім спяць, з ім ідуць на працу
ён заўсёдны прысмак да хлеба
ды іншай ежы...

вядома, ёсць у тым горадзе трава і дрэвы
ёсць асфальт і будынкі:
крамы, аптэкі
цырульні, бальніца
ёсць нават могілкі —
словам, усё, што трэба

для жыцця і смерці
але найперш ёсць — дым
фабрык, заводаў, машынаў
і няма жыцця без дыму
нават пасля смерці

спачатку тут паміраў кожны пяты
потым кожны трэці
цяпер — кожны кожны
адмераўшы ад прыплыцця з вёскі
да скanання
хто сорак, хто трыццаць
а нехта дваццаць
доўгіх ды нудотных гадоў
прасякнутых адным жаданнем
вярнуцца туды, адкуль прыплыў
дзе няма гэтага
паўсюдна-заўсёднага дыму
але з гадамі труна замяняе човен
і плыве на могілкі
на руках і плячах тых
хто даўно ўжо сам
пачаў свой шлях туды ж
і каму засталося
мо год, мо два, мо дзесяць...
і ўсе скарыліся гэтай наканаванасці
зусім не думаючы пра яе
і не шукаючы ратавання
хоць бы там — за возерам
адкуль некалі прыплылі
і куды так хочацца вярнуцца
але зрабіць гэта ніхто
ці — мала хто! — адважваецца
бо там яшчэ ні адзін з вяртанцаў

не застаўся
бо адтуль усе вяртаюцца сюды
адкуль не вяртаюцца

што такое гэты горад?
што такое тая вёска?
што такое тое возера?
адкуль і куды адплываем мы —
і адкуль вяртаючыся не вяртаемся?
хто мне адкажа?
каму адкажу я?
і ці трэба чакаць той адказ?

***3.***
і вось ляціць хмарка высока ў небе
і глядзіць на хмарку глыбока ўнізе
што зачапілася за адзін з хмарачосаў горада
і не можа зрушыць, адарвацца ад яго
і ляцець далей
так бывае і сярод людзей
прыстане нехта да аднаго месца
і нават калі хоча, не можа пакінуць яго
а іншыя вандруюць па свеце
як тая вышэйшая хмарка
і не думаюць нават
шукаць сабе адзінага прыстанішча

«шчаслівыя...» — думаюць першыя пра другіх
«дурныя...» — думаюць другія пра першых
другія спачуваюць першым
першыя зайздросцяць другім
«чаму сталася ў свеце так, а не наадварот?» —
думае нехта

гледзячы з акна суседняга хмарачоса
на хмарку, што вольна блукае па небе
і не зважаючы на тую
што зачапілася і жыве побач з ім
а мог бы ступіць на яе, адштурхнуцца ад дома
і паплыць па бяскрайнім моры неба
ў белы свет:
куды вочы глядзяць
куды вецер нясе
куды лёс завядзе
але — нідзе больш не спыніцца
нікому не быць нечым абавязаным
нікога не любіць і не чакаць любові ад кагосьці
забыць пра каханне і пра каханую
плысці ды плысці —
ляжаць на хмарцы, як на ложку (не — як на лузе!)
закінуўшы нага на нагу, паклаўшы рукі пад галаву
заплюшчыўшы вочы
і думаць: я адзін гэтакі разумны
ці нехта плыве і на верхняй хмарцы?

***4.***

я таксама некалі сеў у човен і пераплыў тое возера
я таксама некалі прыйшоў
у гэты горад з той вёскі
і гэта менавіта я гляджу цяпер на хмаркі
з акна хмарачоса
і зайздрошчу не ім, хмаркам, а тым
хто адважваецца вярнуцца ў сваю вёску
на могілкі да сваіх родных і блізкіх,
да маці і бацькі
да тых, з кім некалі пачынаў жыццё
і ад каго сплыў у горад

прыйдзе час, а ён абавязкова прыйдзе, —
і горад злучыцца з тою вёскай
праглыне яе і не заўважыць нават — так бывала
ў гэтым краі, у гэтым свеце ўжо шмат разоў
і назва вёскі ў лепшым выпадку
зробіцца назвай мікрараёна
паступова на месцы хатаў, што былі адна на сям'ю
з'явяцца шматпавярховікі —
цэлая вёска ў адным доме —
такія ж хмарачосы, у адным з якіх жыву я
а праз возера паўстане доўгі мост
па ім пяройдуць у горад апошнія вяскоўцы
а драўляныя чоўны, не патрэбныя нікому,
згніюць на беразе возера
бо іх заменяць металічныя лодкі
якія не будуць перавозіць людзей
а толькі задавольваць рыбацкія жарсці
новых жыхароў, што наедуць у горад —
былую вёску

яшчэ праз дваццаць гадоў
не стане вясковых могілак — іх знясуць
бо хмарачосы патрабуюць новых і новых плошчаў
і на месцы могілак таксама паўстануць дамы
у іх будуць жыць прыгожыя, разумныя людзі
якія падчас дэпрэсіяў —
а дэпрэсіі тут заўсёдныя, як дым, —
будуць хапаць нажы ці іншую
«халодную» ды «гарачую» зброю
каб абараніць сваю тэрыторыю
якую не змаглі абараніць ад наступу горада
і гінуць, гінуць, гінуць...
не ўсведамляючы, чаму, навошта і адкуль
у гэтым горадзе бяруцца раптам самагубцы

*5.*
а вясковыя могілкі? што могілкі...
ці трэба шкадаваць іх, калі —
уся Зямля нашая — суцэльныя могілкі
і ўжо даўно варта зразумець конча
што радзіма нашая не тая вёсачка
і зусім не той горад
а планета...
планета Зямля
і няма на ёй
ні іўдзея, ні эліна
ні беларуса, ні літвіна
а ёсць проста чалавекі
проста людзі
родныя і чужыя
розныя знешне, але аднолькавыя ўнутры
незалежна ад колеру скуры
і разрэзу вачэй
і ў кожнага з іх была некалі вёсачка
на беразе возера ці ракі
і быў горад, які забіраў людзей
і былі хмаркі, якім яны зайздросцілі
і ёсць адна на ўсіх будучыня —
вярнуцца ў планету Зямля
каб блукаць разам з ёй між зор
і шкадаваць толькі аб адным:
што позна зразумелі гэта...

бо
ў рэшце рэшт
усё зарасце травой
і нават птушкі будуць
маўчаць тут, бы намаляваныя

## *Маўчанне*

Між намі расла трава... І якое б пытанне ты мне ні задавала — заўсёды знаходзіўся на яго адзін-адзіны адказ. Была то — туга... Па тым, што мы памяталі і што яшчэ памятала нас. Цяпер думаю я (кажу табе, і ты згаджаешся), што гэтак бывае толькі тады, калі страчанага не знайсці, калі ў пакінутае не вярнуцца.

Між намі была трава... Мы былі маладымі. І нас хвалявала блізкасць нашых целаў. Ты пыталася — я адказваў. А можна было проста маўчаць, бо ўсё зразумела было без словаў, бо словы нічога не дадавалі і наогул нічога не азначалі, бо ўсё забівала, тлуміла і тлумачыла сабою адно пачуццё — туга... Па тым, пра што не гавораць уголас нават самыя блізкія людзі і пра што маўчаць тут, побач з намі, чужыя людзі. Ты кажаш (і я згаджаюся), што гэтак бывае заўсёды, калі пра мінулае засталіся толькі ўспаміны, а будучыні зусім няма... Бо нас ужо — няма.

Няма там, дзе цяпер усе нашыя думкі і пра што ўсе нашыя ўспаміны. Няма там, дзе красуе цяпер трава, што расце між намі...

## *Цэлае цела*

Ніхто мне нічога не скажа. Бо нідзе буду я. Нават той, хто будзе шукаць, не знойдзе мяне там. Але тыя, што запомнілі, — не забудуць. Так знітоўваецца несумяшчальнае. Як дзень і ноч злучаюцца ранкам і вечарам і хто чыё дзіця — паспрабуй здагадайся. А можа, яны і ёсць тыповая сучасная сям'я: бацька, маці і двое дзетак: раніца і вечар. Хлопчык і дзяўчынка. Я ж сям'і не маю. Я менш, чым адзін, чым адзінка. Бо не магу стварыць пару-двойку з другою адзінкай. Я нікчэмнасць, і месца маё толькі там, дзе ніхто і шукаць мяне не будзе. Ніхто са мною не развітаецца, ніхто не закрые мае павекі. І думаю я: а ці жыў я, ці быў? Бо нікому не стаў патрэбным. Адзінае месца, з якога мяне не выжыць, — людская памяць. Бо непадуладная яна ні розуму, ні пачуццям. Там буду жыць я. І там ніхто ніколі не здагадаецца мяне шукаць, каб паведаміць самае важнае: ты памёр.

«Нідзе — Недзе — Надзея — Дзе я? — Я дзе? — Нідзе», — блукае мой стомлены розум і не знаходзіць адказу. Я сам заблудзіўся, я сам сябе згубіў, я сам сябе не магу знайсці нідзе. Лётае душа па свеце, спускаецца ля цела, якое, пэўна ж, было ейным, а цела тое — нерухомае, значыць — цяпер не яе. А дзе ж яе? Нідзе... Недзе... Не йдзе... Знойдзе... Ной це-ла. Цэла-е. Іе! Йес...

## *77-05*

Ты ніколі не думаў, што цябе так лёгка падмануць. Ты наогул не думаў, што цябе нехта будзе падманваць. Ты начапіў свой лепшы гальштук і пайшоў на спатканне. Ты доўга стаяў на рагу праспекта і Савецкай і чакаў яе. Ты верыў ёй. Ты нават у думках не дапускаў магчымай няшчырасці. Ты ўзіраўся ў прыпынак, ты чакаў кожны тралейбус і з надзеяй праводзіў вачыма кожны аўтобус. Ты загадваў сабе: калі ў нумары наступнай машыны, што пройдзе міма, будуць дзве сямёркі — значыць, яна хутка прыйдзе. Ты радаваўся, убачыўшы 77-05 на «Жыгулях». Ты гатовы быў стаяць тут да раніцы, але дачакацца яе.

Яна не прыйшла. Яна не прыйдзе. Яна весела смяецца цяпер з іншым. Яна не забылася пра спатканне, прызначанае табе. Яна і не збіралася на яго. Яна гуляла з табою, нібы кот з мышшу: захачу — з'ем, захачу — адпушчу, захачу — сыта прайду міма, быццам і не заўважыўшы, як сцялася тваё сэрца. Яна магла дазволіць сабе ўсё. Яна была гаспадыняю, царыцаю і ведала гэта. Яна захацела пабачыць цябе на рагу праспекта і Савецкай. Яна праехала паўз цябе на тых самых «Жыгулях» 77-05.

Ты ўзіраўся ў нумар.

## *Гэтанешчасце?*

Рука ўзнятая — ён вітаецца, прыцiснутая да грудзей – просiць прабачэння. Жэсты простыя, як у неандэртальцаў, як у малпавым статку — як у людзей. Словаў не трэба, дастаткова мiмiкi. Непасрэднае — неапасродкаванае — разуменне. Нiчога лiшняга.

Хто сумняваецца, што ён пераможа? З тых, што бачаць яго цяпер, — ніхто. Бо каб засумнявацца, трэба зрабіць намаганне над сабою, а навошта... Усё зразумела, усё проста: не варта прымушаць сябе не верыць яму. Ён кажа: кожнаму мужу па жонцы, кожнай жонцы па ложку, кожнаму ложку па коўдры, кожнай коўдры... Як справядліва: кожнаму — кожнае! Мы нічога іншага і не жадаем. Мы хацелі пачуць толькі гэта.

Вы за каго? Я за яго! І я за яго! І я! І я! І я! І я!.. За яго!

Гэта сон? Не, гэта ява. Гэта жыццё, якое мы жывём. Прайшло дваццаць гадоў, прайшло трыццаць. Дзеці сталі бацькамі. Ён стаў дзедам. Ён таксама пражыў жыццё. Разам з усімі, разам з кожным. Дзеля чаго? Космас не стаў бліжэй, зямля не стала радней. Людзі не зрабіліся лепшымі, павуцінка не зрабілася таўсцейшай. Мора засталося далёкім, а дзяцінства — недасягальным.

А былі ж яшчэ мары. У кожнага — кожныя. Асабістыя з асабістых. Аднак прыйшоў ён, і ўсе пачалі жыць так, як палічыў патрэбным ён, а тыя, хто не забыў пра сваё, хто думаў іначай, ужо даўно не тут. Слова «супраціў» стала сінонімам слова «смерць». Ворагі! Так ім і трэба... І мяне гэта не датычыць. Мая хата — інтэрнат...

Я вельмі люблю яго. Больш за маці, за сваіх дзяцей... І я люблю толькі яго. І я! І я! І я!..

А я яшчэ больш люблю яго...

А хто сумняваецца ў тым? Ніхто.

Жыць ды радавацца, радавацца і дзякаваць. Ці ж гэта не шчасце?

І баяцца толькі аднаго: як мы будзем жыць без Яго?

# *Мінус*

У нашых кватэрах пуста — як у нашых душах. У нашых кватэрах, у нашых душах толькі дзеці — галодныя і хворыя. Яны ляжаць на халодных падлогах, прыкрытыя лахманамі. І мы сыходзім з кватэраў, каб толькі не бачыць іхнія пакуты. Мы даўно не можам ім нічым дапамагчы. Ці ёсць для бацькоў большае пакаранне, чым гэтае?

Мы збіраемся на пляцы з надзеяй, што сёння будзе праца. Але сярод нас больш віжоў, чым працадаўцаў. Кожны дзень знікаюць тыя, хто выказаў — хоць бы позіркам — сваю незадаволенасць. Аднак нас не меншае: месца бацькоў займаюць дзеці. Дзіўная заканамернасць: чым большы голад — тым больш дзяцей. Беднаму Бог пакінуў адную радасць — памнажацца.

Нашыя душы раскрытыя насцеж. Нашыя кватэры даступныя ўсім. Нашыя жонкі — нашыя... Нашыя дзеці – нашыя... Толькі кожны з нас — паасобку: сам, адзін. Кожны мужчына — асобна, кожная жанчына — асобна, кожнае дзіцё — асобна.

Нам ніколі не быць разам. Нас ніхто не ўратуе. Мы знікнем, быццам нас і не было.

Адныя пакідаюць пасля сябе піраміды. Іншыя — кнігі, музыку, храмы, замкі, дарогі, каналы, няўдзячных нашчадкаў... проста памяць.

Нас ніхто не згадае. Нават як кепскі прыклад. Пераможцы не памятаюць. Пераможаных. Таго, чаго не было, — няма.

Нас не было, і пакуты нашыя дарэмныя.

## *Ціша*

Для нас паветра няма, а для іх — няма вады. Мы дыхаем празрыстым нябачным паветрам, а яны — вадою. Мы не адчуваем супраціўлення паветра, пакуль не падымецца вецер. А для іх плынь — вецер.

У нас ёсць дзень і ноч. У іх — толькі ноч, якая для іх бясконцы дзень. Яны ўвогуле не ведаюць, што такое цемра і што такое святло. У іх няма вачэй, але яны бачаць. Ва ўсе бакі вакол сябе, а не так, як мы, – толькі наперадзе.

У іх ёсць грамадства і лідары. Ёсць несправядлівасць і ашуканства. Ёсць добрыя і злыя, вясёлыя і вечна сумныя. Ёсць няроўнасць і няма брацтва. Яны такія ж, як і мы. Ва ўсім.

Але нам ніколі не ўбачыцца.

## *Кветачкі*

бессаромна пахнуць ружы жывёльным пахам падману і праўды, уздымаюць твары ўверх, кладуць галовы на твае плечы і плачуць, неспатоленым тлумам аточаныя, неаплочаным шчасцем атуленыя, і

слёзы тыя плешчуцца ля ног тваіх, б'юцца аб іх, як кацяняты лбамі, і цямнее дол ад тога мокрага благаславення: хай будзе так і ўсім, усім — толькі дабра, толькі пульхных вуснаў і стромкіх ног, і ні кроплі слёзнай — хай будзе так! хай зялёным святлом поўняцца лясы, блакітным — рэкі, жоўтым — пясчаныя берагі ля Мазыра, ля Гомеля, ля Гародні... колькі можна бегчы напрасткі, куды можна забегчы напрасткі? стомлены твар палымнее ружай, мокрае цела пахне жыццём, слёзы сталі потам, пот — парай, пара — дажджом, дождж — лужынаю: дай нап'юся, нап'юся і паплачу — п'яныя любяць паплакаць над сваёю нядоляй і чужою радасцю, над несусветнай бядою і сусветным шчасцем, над тым, чаго няма і чаго не будзе; слёзы хвалямі б'юцца ля ног, самыя смачныя слёзы — слёзы нашах крыніцаў, самыя блакітныя слёзы — слёзы нашага неба, самыя жоўтыя слёзы — слёзы нашых балотаў, самыя шчырыя слёзы — твае: слёзы спазнання мужчыны, у іх — боль і радасць, крык і шчасце; мужчынам гэта не дадзена, Бог абдзяліў іх шчасцем, хоць ні Мазыр, ні Гомель, ні Гародня не былі б Мазыром, Гомелем, Гародняй без слёз, без поту, без пары, без дажджу, без рэкаў — без Прыпяці, без Сожа, без Нёмана, без нябёсаў, без смеху і плачу, без стогну і крыку, без дзён бясконцых і ночы кароткай, без вуснаў гарачых і спіны халоднай, і мораў не было б, і горы зраўняліся б, і космас не маўчаў бы гэтак зацята, ніца, дакорліва, зайздросліва — там ёсць усё, там няма пакуль толькі нас, няма Прыпяці з Мазыром, Сожа з Гомелем, Гародні з Нёманам, але мы туды пойдзем, мы пойдзем туды з апошняю сваёю слязою, там сустрэнуць нас першаю нашаю слязою, ад слязы да слязы — жыццё: ад кветкі да кветкі, ад ружы да ружы, ад спелага каласка да сіняга васілька...

## *Парадак*

дзірачкі ў чаравіках так саромеліся мяне, што шнуркі, якія іх сабою трымалі, гатовыя былі распаўзціся, бы вужы, каб ззеляніцца ў траве, схавацца ў норах лісіцаў і барсукоў, ссінець у вачах сланоў і вярблюдаў, абы толькі я пераабуўся, начапіў на ногі пантофлі без шнуркоў і дзірачак і пайшоў у суседні пакой да тэлевізара, пападарожнічаў па тэлеканалах, выбраў найцікавейшы і заснуў, у пантофлях, седзячы з шырока расплюшчанымі вачыма перад экранам, і ці то сон сніў, ці то і сапраўды быў на яве — на Яве ды Суматры і бязвольна пазіраў, як на мяне накочваецца хваля з японскім назовам Цунамі (з вялікай літары);

я ведаю, што такое стыхія, я ведаю, што яна няўмольная і магутная, што яна мяне не пашкадуе, што хваля абмые мяне, абдыме і пачне круціць у сабе, як запалку, пакуль не пераломіць рукі і ногі і не саб'е ў кавалак-калабок — перакаці-поле, аднак я не паспяваю нават спалохацца, бо прачынаюся і бачу тую самую ўсёпераможную хвалю на тэлеэкране і чую на твары вільгаць пырскаў, а на вуснах іх салонасць, але хваля разбіваецца аб шкло, б'ецца аб яго, скрыгоча (каменнем, зубамі!) у злосці, а мяне дастаць не можа, пантофлі ў жаху сціскаюцца на нагах і ціхенька скуголяць, баяцца, шчанючкі, што не знойдуць дарогу дамоў і стануць непатрэбнымі, а яшчэ горш, калі хваля разлучыць іх, раскідае і адзін занясе на Яву, а другі — на Суматру, і тады ў іх ніколі не будзе дзетак, бо на Яве пантофлю падораць правадыру племя абарыгенаў з кудлатаю галавою, і ён зробіць з яе заместа інжыравага ліста дужа зручную накрыўку на месца ўсіх прычынаў, а другую пантофлю на Суматры праглыне кракадзіл ці бегемот, а лепей — хапане ў дзюбу пелікан, і яму развітацца з пантофляй будзе яшчэ цяжэй, чым мне: ён палюбіць яе, як любяць любімую рэч, як любіць сваіх дзетак з ратамі-мяхамі;

а мне пантофлі губляць не ўпершыню, у мяне ёсць на выхад чаравікі са шнуркамі ў дзірачках, а ў чаравікаў, і ў аднаго, і ў другога, як і ў пелікана, дзяцей нямерана, і ўсе есці хочуць, да дзюбы адвіслай цягнуцца, пелікан накорміць іх камбалай — філе без касцей, з крамы насупраць, напоіць гарбатай з печывам (бабуля напякла) і дазволіць паглядзець мульцікі па тэлевізары перад сном, а заўтра забярэ іх адсюль дамоў, бо канікулы скончыліся, і трэба ісці ў школу, дзе жывуць адныя праблемы, і іх навучаць маляваць дзірачкі ў чаравіках (для шнуркоў)

## *Захад*

вочы асыпаюцца пад ногі, бы яблыкі ў познюю восень, — кругла, гонка, балюча, ажно сабакі енчаць, пазіраючы то на поўню, то на сонца, якое ці яшчэ не схавалася за вершаліны дрэваў, ці толькі з-за іх выйшла;

каму верыць: сонцу ці сабе, людзям ці яблыкам, сабакам ці вачам? пісьменнік з Германіі крычыць: кожнаму сваё, а я згадваю Ніцшэ і Ротэрдам, Спінозу і Ніцу і думаю: усё адносна — адносна таго, што бачаць нашыя асыпана-рассыпаныя вочы і разумее розум, усё ад-носна альбо аднос-на, і не інакш, і не іначай, бо тады каровы будуць пасвіцца ў рацэ, а шчупакі паляваць у лесе на ваўкоў, ноч стане днём, бо месячык — сонцам, а жвавы верабейка — густою, зялёнаю травою на тым месцы, дзе карова пакінула свой каравай;

і не трэба згадваць пра кругазварот, пра надыход-узыход-сыход-захад, пра мяжу між святлом і цемрай, якую ўвечары называюць вечарам, а раніцай — рані-

цаю, а ў адной краіне — таталітарызмам, аўтарытарызмам і надыходам тыраніі

надыходам ці сыходам? узыходам ці заходам? спытаўся я ў цішыні — цішыня ў адказ ні слова, ні гуку, толькі палёт касы ды стогн скошанай травы, толькі палёт мяча ды стогн скошанага футбаліста, адзінаццаты нумар выконвае адзінаццаціметровы, і сімвалічнасць на гэтым заканчваецца, затое з'яўляецца інтрыга: каго хто ці хто каго?

не люблю пытанняў, якія нібыта пакідаюць права выбару, не даючы яго, заўсёды думаю: чаму «альбо — альбо», а не «і — і» — так было б справядлівей для галодных і сытых, для прыхільнікаў і апазіцыі, для прысунутых і адсунутых, для цябе самога, які павінен вучыцца на чужых памылках і не крыўдаваць, калі забываеш свае, а яны паўтараюцца з жахлівай паслядоўнасцю, з якой можна нават вывесці формулу: (an +an+1+an+2+an+3+ an+4...) і г. д. пры ўмове, што адзін выпадак роўны аднаму выпадку і ён не паўтараецца толькі ў тым выпадку, калі выпадак гэты варты таго, каб не паўтарацца і застацца ў пераліку;

і тады кіроўца, які на «Нісане» праскочыў на чырвонае святло, толькі пасміхнецца: пранесла, бо немагчыма затармазіць на дарозе, па якой толькі што прабегла вада з аднаго возера ў другое, больш папулярнае: думала — там норы глыбейшыя, там бераг сытнейшы, а аказалася — там торф па калена і стаіць у ім Дыяген, піць хоча і нагу выцягнуць не можа, плача, кліча Шапенгаўэра з Кантам; яны прыбягаюць і бачаць: тая вада, што ўзбунтавала была і прасіла прытулку ў суседзяў, цяпер растварылася сярод іншых водаў і пакуль затаілася, абзвоньваючы хіба знаёмых, што засталіся пры ўладзе, і спадзеючыся, што яе тут ніхто не ўбачыць і чапаць не будзе

## *Спадчына*

праўда бывае выдуманай, як жыццё безадказным,
«што зробіш...» — уздыхаеш ты і ідзеш наўпрост —
там, наперадзе, не лес, не горад, не рэчка, не мора, не шпіталь, не крама,

там — людзі, якія чакаюць зменаў, людзі, якія стаміліся жыць (спыніліся жыць), а паміраць не хочуць, бо з-за няма чаго рабіць ім няма калі і паміраць, а яшчэ таму, што яны вельмі любяць сваіх дзяцей і хацелі б пакінуць ім лепшае за ўласнае жыццё;

хацелі б... пакінуць... аднак жаданне гэтае неўсвядомленае з-за сваёй простасці і зразумеласці і таму шукаецца прычына суму і смутку, бяздзеяння і абыякавасці,

шукаецца і не знаходзіцца — хоць ты дурною сваёю галавою аб сцяну біся, хоць штаны здымай, хоць бараду па адной валасіне вышчыпвай,

«ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына...» а вам засталася? ці толькі нам? ці гэта вам дасталася, а нам не?

няма адказу ў выступах і песнях, няма ў прозе і драматургіі, у кіно і па радыё-тэлевізіі,

кожны сам шукае адказ у кожную хвілю, адчуваючы ў галаве тупы боль, быццам туды нехта цагліну паклаў;

дрэвы выкарчаваныя, пасаджаны сад, будуць яблыкі і грушы, а сліваў не будзе, бо не пасадзілі,

чаму?

ах, не задавайце дурных пытанняў, чытайце лепш кнігі, а яшчэ лепш — напісаныя не вамі і не для вас, вашымі су... супляменнікамі, суайчыннікамі, су... супланетнікам: ад Бібліі пачатак,

усё астатняе — падробкі, мода, перайманні: грэх, бо імкнецца зацьміць боскае — дасканалае, падмяняе сваім: што бачу, тое і пішу,

а што ты бачыш, тля! што ты ведаеш, мураш? што ты можаш, мікроб?

зламі сваю асадку і кладзіся спаць

спа-а-а-а-аць!

## *Кропкі*

дзве кропкі... адна большая, другая меншая... вочы ваўка, які дрэмле, які прачнуўся ўжо ад святла скіраванага на яго ліхтара, але не можа яшчэ ўцяміць, што адбываецца і чаму раптам сонца апусцілася на зямлю і набліжаецца да яго...

стрэл і боль... што было раней? стрэл ці боль? воўк адчуў спачатку боль, але чаму? вынiку без прычыны не бывае... боль — вынік стрэлу, але чаму ён раней?..

куля апярэдзіла гук? — гэта думаю я, гледзячы на ваўка, а воўк шчэрыцца, як на здымку, і сліна з крывёю капае з пашчы, бы на замаруджаным відэа;

ён яшчэ жывы, ён яшчэ страшны, але ўжо бездапаможны, вочы гараць злом, вочы кусаюць блізкіх ворагаў, вочы агрызаюцца, вочы ўцякаюць, ратуюцца ад людзей, што набліжаюцца з ліхтаром, але — цела не слухаецца...

сляпучае святло пранікае ў нутро, шныпарыць па страўніку, нырках, пячонцы, сэрцы — як балюча-а-а!

воўк спаў, навошта яго разбудзілі? няўжо толькі дзеля таго, каб ён заснуў навечна?

кропкі робяцца роўнымі... воўк спіць...

## *«Віно»*

а потым — прыйшла зіма, з тоўстым шклом пад нагамі і калючым дротам дрэваў, з хмарамі белых матылькоў і крупянымі россыпамі,

твар абпальваўся і загараўся найвышэйшым колерам светлафора, і сустрэчныя машыны спыняліся ў здзіўленні, а потым доўга не маглі зрушыць, коўзаліся, а то і круціліся на месцы, як сабака, што хоча ўкусіць сябе за хвост,

звонкі металёвы грукат перамяжаўся з глухім пластмасавым, людзі выходзілі з машынаў, абмацвалі сябе і нечакана радасныя горача абмяркоўвалі пару, што выходзіла з іх рота,

словы не паспявалі замярзаць, падалі ім пад ногі і ляжалі там непрыгожыя, вычварныя; адзін чалавек пачаў як бобам сыпаць літарамі «о» — ён заплакаў

думаеце, я люблю зіму? лыжы ды канькі з мотасанямі, снег ад калена і вышэй?

не... я лепей бы перанёс Новы год на вясну альбо на восень, каб у людзей было яшчэ болей прычынаў для радасці, і каб ім не хацелася ссякаць дзеля забавы вішню ў квецені альбо яблыню з яблыкамі, як ссякаюць яны елку альбо хвою, і на сырой траве было б ляжаць лепей, чым на сухім снезе, не толькі жанчынам, але і мужчынам

на спіне

# *Ідэал*

калі глядзець на чалавечы горад зверху, у тым хаатычным руху ўнізе цяжка ўбачыць нейкую логіку

і гэта якраз і ёсць прыкметаю разумнага жыцця, бо, назіраючы за мурашнікам, зверху, логіку ў тым, што дзеецца, відаць адразу: там кожны заняты пэўнаю працай — канкрэтнай,

але ці змяніліся мурашы за тысячы гадоў эвалюцыі, ці падыходзіць увогуле ў адносінах да іх гэтае слова — эвалюцыя?

а чаму б і не? і калі не — навошта яны?

санітары лесу, кажаце вы, — можа быць, можа быць, але тады навошта чалавек? чаго і каго ён санітар? каму ён санітар?

хіба: чалавек — санітар чалавецтва, чалавек санітар чалавека...

прыгажосць не ёсць акуратнасць, упарадкаванасць, і чысціня...

чалавек ёсць хаос, і таму ён вечны

## *Чаканне*

яна на сустрэчу затрымлівалася, і ўжо нашмат, Прыпяць пачала хвалявацца, плюхаючы хвалю за хваляй у бераг — гэта, відаць, рэчцы перадалося маё хваляванне; я адышоўся ад берага да намёта, што стаяў пад трыма векавымі дубамі, каб трохі супакоіцца

і не браць блізка да сэрца хваляванне ракі — яна, вядома, прыйдзе, я перакананы і ўпэўнены: не першы раз спазняецца, і я дарую ёй гэтае спазненне, нават ніяк не згадаю: ні рухам, ні словам, так ужо ў нас размеркаваліся ролі: мне чакаць, ёй спазняцца, шкада толькі, што падчас чакання я не магу нічога рабіць, нават чытаць, і разгарнутая на 253 старонцы кніжка Джойса пра дзённае падарожжа чарговага Адысея, мусіць, так і застанецца недачытанай, прынамсі, я падазраю, што так і будзе, бо калі б былі ў мяне з сабою — тут — іншыя кнігі, я даўно адклаў бы іх, і я шкадую, дарэчы, што не ўзяў што-небудзь з Гарэцкага, якога я люблю перачытваць, хоць прачытаў ужо большасць ягоных твораў па некалькі разоў, бо ён чытэльны мне ў любы час і ў любое надвор'е, у яго я занырваю, як у раку, і магу доўга сядзець «пад вадою» амаль без дыхання, не заўважаючы, як ляціць час... яна спазнялася, мне не чыталася і не думалася, і тады я ўзяў вуду, начапіў на кручок чарвяка, і пайшоў да ракі, на круты, падмыты хвалямі бераг, і закінуў паплавок да рэшткаў паглынутага ракою лазовага куста, які жыў на беразе яшчэ ўчора, а цяпер трымцеў выцягнутымі ў роспачы з вады да неба галінкамі, нібыта прасіў паратунку; на жаль, я яму нічым не мог дапамагчы, а вось ён мне дапамог амаль адразу падчапіць немалога галаўня, што пасвіўся пры ім і адразу ж, з лёту, накінуўся на чарвяка, які не паспеў нават скончыць вольнае падзенне да дна; рывок — і рыбіна на беразе, але і нечаканая яна мне была непатрэбнаю, бо закідваў вуду я не дзеля таго, каб яе злавіць, а каб проста прабавіць час, які ля паплаўка, што пагойдваецца на хвалях, бяжыць нават незаўважней і хутчэй, чым за чытаннем, мне шкада было гэтае ачмурэлае рыбіны, а яна задыхалася

на беразе, шырока хапаючы ротам непатрэбнае ёй цяпер паветра; не з першага разу, але ўсё ж досыць хутка мне ўдалося адчапіць яе, і я кінуўся да вады, каб адпусціць срэбна-чорную прыгажосць і не ўзяць на душу грэх... больш вуду я не закідваў, стаяў, абапершыся на яе, і глядзеў далёка на раку, туды, адкуль чуўся грукат матора нейкага карабля, мажа баржы, што ішла з боку Пінска да Кіева, а мажліва, толькі да блізкага Мазыра... але яна, зразумела ж, на гэтай баржы не плыве, яна павінна прыйсці пешкам, такая ўмова ў нас, не ў мэтах канспірацыі, вядома, якая канспірацыя ў цяперашні час: занадта шмат людзей жыве наўкола і ўсе з усімі знаёмыя, калі не па-суседску, дык з тэлевізара, а яшчэ кожны мае ў кішэні міні-шпіёна — сотавік, які каму трэба і каму не трэба ўсё пра цябе раскажа... пешкам прыйшоў сюды і я — хацелася адзіноты, хацелася заняць месца, куды на машыне не пад'ехаць, каб не раўла паблізу музыка, бо нашыя гараджане, выехаўшы на адпачынак «за горад», адразу ўключаюць на поўную моц радыё ці прайгравальнік, нібыта не могуць без інтэршуму адпачыць, а я і яна якраз шукалі цішыні, каб, даруйце, пачуць біццё сэрцаў побач, нячутнае ў горадзе, каб пабачыць зоркі на небе, нябачныя ў горадзе, каб нырнуць і ўтапіцца ў паху лугавых кветак і травы, а не нагрэтага асфальту і... і... і... тут я ўбачыў яе: яна йшла да трох волатаў-дубоў лёгка і няспешна, мне падалося нават з заплюшчанымі вачыма, ішла босая, трымаючы ў руках свае кеды, размахла імі ў такт хадзе, і яны нібыта ішлі разам з ёю крок у крок, вецер ублытваўся тварам у лёгкую сукенку і цесна прыціскаўся да яе, так цесна, што я пачаў раўнаваць яго... яна йшла да мяне спозненая, а значыць, вінаватая, а значыць, цяпер ужо дакладна мая...

## *Стогн*

пазіркам малым спынены быў напаўдарозе твар твой выспелы ў асалодзе і маска застыла нібы высечаная з жоўтага дрэва сякераю вясковага скульптара пад Наваградкам хоць ты ў газету пішы рэпартаж здымай для тэле сцэнар з цябе складай для фільму жахаў

а быў жа ты хвілю таму прыгожым бы віно ў келіху і кожнаму (ці кожнай) прывабным патрэбным хоць бы на час аж трэ было маланцы асвятліць цябе раптоўна — позіркам сваім малым імгненным — і ўсе расступіліся прапускаючы цябе паперад сябе: бывае так — у народзе прачынаецца пачуццё самазахавання і робяцца людзі адным мурашнікам ці вулеем, вылучаюць з сябе Данка і кажуць: вядзі!

ты ішоў пакуль не стаў першым (калі перад табой нікога няма, значыць, ты... значыць, ты адзін і адзінокі ў гэтым свеце і табе ісці аднаму, адчуваючы ззаду рулі сотняў вачэй, стоенае дыханне і надзею) а потым спыніўся і азірнуўся — ззаду такая ж пустэча, як і наперадзе;

а вочы — падман, прыдумка, а позірк — памылка...

## *«Крыўда»*

у цырку, у далёкім (забытым Богам) куце плакаў клоўн, захліпаўся ад горкіх слёз — яго пакрыўдзіў, сам таго не жадаючы, выдрэсіраваны ім сабачка — ужо не шчанюк, дарослы, але сабачка, бо маленькі; пакрыўдзіў, абазваўшы бяскрылым — вобразна, вядома, а не ў прамым сэнсе, але што можа быць больш балючым для творцы (а клоўн лічыў сябе творцам), чым тое, што цябе апускаюць з нябёсаў на зямлю: ты бяскрылы, ты не можаш лётаць — у цябе няма фантазіі... і хто так сказаў? хто... ну няхай бы ўдаў Жан ці слон Мікола, тыгр Сева ці малпа Дзям'ян, а то... і за што? галоўнае — за што? і ўспамінаць не хочацца...

клоўн плакаў у далёкім куце, і ніхто, апроч сценаў старога цырка, яго не чуў, не было каму паспагадаць яму, абняць за плечы, супакоіць, усе даўно разышліся па сваіх клопатах, і нават сабачка, які гэтак пакрыўдзіў клоўна, збег некуды: ці то да сяброўкі — сучкі Жаны з канкурэнтнага нумара, ці то ў госці да кажана Мікіты, які ў цырку не выступаў, проста даўно жыў пад страхою, вісеў галавою ўніз і ўсё бачыў...

вось так, думаў клоўн, нікому ты не патрэбны, памрэш — і заўважаць толькі тады, калі па аб'яве нумара не выйдзеш, кінуцца шукаць, а знайшоўшы — плакаць і шкадаваць... плакаць і шкадаваць? хто? хіба бабулька-білецёрка, ды і тое не яго, а сябе шкадуючы праз яго... ніхто, ніхто, ніхто не заплача шчыра, нават сабачка, які яго апусціў на зямлю, абазваўшы бяскрылым, ніхто — і клоўн заплакаў яшчэ мацней, слёзы змачылі грудзі, рукавы кашулі, і на вуснах, і ў роце — былі яны салёнымі...

## *Развi...*

няхай Вам спяваюць птушкі — толькі пярэстыя, няхай Вам грае барабан — худы, як бубен, няхай для Вас танчыць тая дрогкая кабецінка... а мне нічога не трэба, я нічога не хачу ні ад Вас, ні ад гэтага свету, ні нават ад жанчынаў, якія адная толькі радасць на гэтай зямлі, у гэтым жыцці і ў жыцці ўвогуле (так кажу я цяпер, бо мужчына, а калі б быў жанчынаю, казаў бы тое самае, толькі наадварот: мужчыны адная радасць на гэтай зямлі... і гэта ёсць не адкрыццё нейкае, а звыклая праўда, якую ніхто заўважаць не хоча, альбо прызнацца саромеецца);

я нажыўся;

я наглядзеўся-набачыўся;

і я ведаю ўжо, што нічога новага тут не было і не будзе, што свет гэты тысячу, мільён, мільярд разоў пракляты так, што не адмыцца, не ачысціцца і праз сто, і праз тысячу, і праз мільён гадоў...

мне нічога не шкада, я ні пра што не шкадую — хіба толькі аб тым, што не пакінуў Вас у дзяцінстве, тады б

мне ўвогуле не было пра што згадваць, апроч летняга ранку — роснага, шчырага — і сябе ў сакавітым, ломкім бульбоўніку, ля куста амаль спелага калючага, але такога смачнага агрэсту... пад яблыняй: яблыкі яшчэ зеленаватыя, але ўжо салодкія, сакавітыя, асабліва паданкі, што ляжаць тут, пад нагамі, у бульбоўніку...

больш нічога не трэба згадваць, не варта...

бо больш нічога значнага ў гэтым жыцці Тут не было: адно мітусня, «суета сует» без перастанку, без перапынку, без прыпынку на тое, каб агледзецца: агледзімся, дасць Бог, Там...

так, але — не спадзявайцеся, Адтуль лепш не азірацца, Там можна хіба чакаць каго-небудзь з тых, хто памятаецца і каго Адтуль шкада Тут; зрэшты, што казаць: мы ўжо ўсе Там, і тыя, хто быў, і тыя, хто ёсць, і тыя, хто будзе; і Там няма часу, няма мінулага і будучыні, Там ёсць толькі цяпер, а гэта значыць, што няма нічога: ні цела, ні душы, а толькі ўсведамленне сябе як часцінкі, частачкі чагосьці вялізнага, незразумелага, неспазнанага... гэтак напачатку — я тое ведаю, бо быў Там колькі хвіляў, а што далей — пакуль нават не здагадваюся, і ніхто мне пра тое ніколі нічога не сказаў, і не хачу я фантазіраваць, выдумляць нешта такое, чаго выдумаць нельга: не варта, усяму свой час, як кажуць чалавекі — пажывём-пабачым...

«пабачым» — яшчэ адное добрае слова, якое не абавязвае ні да чога, якое нічога не тлумачыць і не азначае, хоць бы таму, што чым пабачым і што, калі нічога няма...

мне проста здаецца, што ўвальёмся мы ў нешта вялізнае, бясконцае, дзе кожны адчуе сябе кропкай у прасторы, кропкай, якой няма, ёсць дух — няма цела, але што такое дух? хто ведае? хто бачыў? хто патлумачыць? кропкі няма, цела няма, але мы ёсць, існуём,

думаем, перамяшчаемся ў прасторы, рухаемся, значыць, жывём, дакладней, працягваем жыць...

вельмі хочацца, каб так і было, хоць і не ўяўляю — навошта? дзеля чаго? Тут — усё зразумела, а Там...

і разам з тым — мяне не пакідае адчуванне, што я ўжо быў Тут, і не аднойчы...

і што — яшчэ буду... пад рознымі імёнамі, з рознымі тварамі...

але я ніколі яшчэ так не прырастаў да той зямлі, на якой жыў, як да гэтай, на якой жыву цяпер; ніколі яшчэ так не балела мне за тую зямлю (і за яе будучыню), на якую мяне часова закінуў лёс, і ніколі гэтак, як цяпер, не хацелася мне нешта зрабіць дзеля яе, каб змяніць раз і назаўсёды несправядлівасць, што пераследуе гэтую зямлю і яе народ, якому належу цяпер і я...

раней я мог ахвяраваць сабою толькі дзеля сябе, ну, мажліва, яшчэ дзеля блізкіх (часова блізкіх) мне людзей, да якіх я прывык, але мне абсалютна ўсё роўна было, дзе я жыву і як называецца тая мясціна, на якой я жыву: Партугалія, Гана, Кітай, Эквадор, Японія, Ізраіль (называю першае, што прыходзіць у галаву, хоць хочацца верыць, што — невыпадкова, хоць хочацца спрачацца з самім сабою і ўсе краіны, апроч Партугаліі, называць іншымі імёнамі, больш старымі і, можа, нікому сёння не вядомымі),

а тут раптам — закаханасць і жаданне не проста паўплываць, а дапамагчы, і не проста дапамагчы, а змяніць нешта...

вядома ж, да лепшага,

бо колькі можна кожнаму, хто прыходзіць сюды, пакутаваць...

пачаць змены з гэтай зямлі, каб урэшце сталася лепей на ўсёй планеце Зямля, каб не трэба было нам зноў і зноў вяртацца Адтуль Сюды...

## *Душа*

лязо ляжала ля труны, пускаючы люстэркавым бокам сонечнага «зайчыка» ў столь, і ён, як і любы зайчык, падрыгваў, трымцеў ці то ад страху, ці мо ад таго, што недзе глыбока пад зямлёю час ад часу праносіліся цягнікі метро; святло падала з акна на лязо — сонца паціху рухалася ад абеду на вечар, на спачын, і разам з ім рухаўся, падрогваючы, «зайчык», пакуль святло акна не саскочыла на падлогу — тады

знік і «зайчык»... «усё, пачынаем...» — сказаў нехта, і пад дужымі рукамі труна закоўзалася на крэслах і скінула сваім целам лязо на падлогу, у асветлены прастакутнік; «зайчык» ажыў, зноў скокнуў на столь і пачаў там таньчыць свой рытуальны танец — цяпер ужо так смела і разняволена, што падумалася — гэта таньчыць вызваленая нарэшце з няволі душа; пакой між тым апусцеў, засталіся толькі крэслы, засланыя тканымі рушнікамі, на якіх белы колер перамяжаўся з чырвоным і перамагаў бліжэй да сярэдзіны... у пустым пакоі «зайчык» перастаў здавацца жывым і патрэбным, рухавасць ягоная цяпер толькі назаляла і замінала адпачываць стомленаму ад людское мітусні маленькаму коціку, які раней, падобна, не заўважаў увогуле гэтага «зайчыка», што апусціўся ўжо са столі на сцяну і паступова набліжаўся да даступнай коціку вышыні; коцік ляжаў, хітра прыплюшчыўшы вочы — так, каб увесь час назіраць за «зайчыкам», які і блізка ні пра што не здагадваўся, а проста падпарадкоўваўся сонцу, што ішло на адпачынак; і вось надышоў момант, калі «зайчык» апынуўся на патрэбнай коціку вышыні, — імклівы скачок — і «зайчыка» не стала... але і ў лапах коціка нічога не было: коцік расчаравана вярнуўся на нагрэтае раней месца і, ужо самотна заплюшчваючы вочы, убачыў, што «зайчык» зноў быў на той самай сцяне, — імклівы скачок — і зноўку ў лапах нічога няма, і сцяна таксама пустая, бо «зайчык» апынуўся на коцікавым целе, але коцік яго не бачыў... гэтым разам коцік вырашыў не сыходзіць з месца, а дачакацца «зайчыка»; і, вядома ж, не дачакаўся, бо тут у пакой вярнуліся заклапочаныя нечым людзі, рассунулі зэдлікі, унеслі стол, селі вакол яго; лязо стаілася глыбока пад сталом, недасягальнае для сонца, і толькі цяпер сталі заўважныя на ім плямкі — цені засохлай крыві...

## *Таемнасць*

калі прыходзіць зіма — дрэвы распранаюцца, і нам, чалавекам, няўцям — навошта яны гэта робяць, бо мы якраз пачынаем апранацца цяплей: няўжо прырода здурэла?

калі мы кладзёмся спаць — мы распранаемся... няўжо ўсё так проста вытлумачваецца?

не веру... самому сабе не веру, тым болей — прыродзе: не можа яна быць такой прымітыўнай, як я, як мы,

за гэтым хаваецца нейкі таемны сэнс, да якога мне, нам не дамкнуць...

бо самае простае насамрэч ёсць самае складанае, бо ўсё самае лагічнае ёсць самае абсурднае... і наадварот...

дрэвы распранаюцца штогод, як мы перад сном, але і для іх урэшце ўсё скончыцца апошнім распрананнем...

так робяць дрэвы

а мы прыходзім у гэты свет голымі, а сыходзім апранутымі...

нешта тут не так... ці правільна гэта? ці разумна?..

не трэба саромецца свайго цела, не трэба саромецца самога сябе

як не саромеюцца дрэвы, распранаючыся перад немінучым, распранаючыся перад смерцю,

як не саромеемся мы, прыходзячы ў гэты свет

## *Мора*

людзі, якія маюць мора побач, нават і не ўяўляюць, як важна мець мора

людзі, якія маюць мора пры сваёй зямлі, нават і не задумваюцца, як добра мець мора, бо не ўяўляюць, што яго можа не быць

а мора — яно вось, яно лашчыцца ля ног у ціхае надвор'е і цяжка варочаецца, б'ецца ў бераг, калі вецер раптам узбунтуецца

я люблю мора ціхае — як возера

але калі б яно было заўсёды ціхім — яно было б нецікавым, а можа, і... непатрэбным для плавання, як не трэба балота

чалавек ад нараджэння павінен баяцца вады, як баіцца агню, але чаму тады ён селіцца найперш каля рэк і азёраў, каля мораў — спачатку ля тых, якія ніколі не замярзаюць і не ўтвараюць мастоў і дарог

замерзлая вада — ужо не вада, а лёд спакайнейшы за любое балота

шляхі скарачаюцца, і па моры (па рацэ) прайсці можна, як па сухому, адно хіба — не босымі нагамі

мора любіць смелых, горы любяць смелых...

не паверыце, але і балота любіць смелых ды адчайных

мора смелых робіць смялейшымі, а балота забірае іх сабе і не адпускае

бяда нашая — мора, што стала балотам...

## *Ніколі*

і ніхто нікому не дапаможа — так вырашыў лёс, так склаліся абставіны, але і гэта не апраўданне — бо жыццё тэпае і тэпае — у каго наперад, у каго ўбок, а ў каго і назад, каб паказаць прычыну таго, што здарылася... і вось глядзім мы на зробленае намі і не верым, што гэта мы зрабілі: ну не мог я, не мог так пакрыўдзіць чалавека, не мог такое ўчыніць... я ж не думаў, не хацеў... і ўявіць сабе не мог, што гэтак скончыцца... цяпер позна, цяпер трэба прымаць ураджай свайго ўчынку і жыць далей, ужо ведаючы пра яго... зло, урэшце, перамагло дабро, бо дабро, перамогшы, найчасцей становіцца злом, і самыя горшыя непрыемнасці ў свеце рабіліся з самымі лепшымі намерамі (не я сказаў), а выходзіла, як заўсёды (таксама не мае словы), і застаецца толькі наракаць на лёс, на абставіны, на непазбежнасць, на неба... бо ніхто ніколі нікому

не

дапаможа

## *Сон-сну-сном…*

сон працярушвае, працярэблівае сабе дарогу з учора ў сёння, а ночы як не было

сон-прабел, сон-адбіўка між тым, што было і што будзе

няспешны гэтакі сон, які пралятае імгненна: здаецца, толькі прылёг сёння, а расплюшчыў вочы — ужо заўтра, альбо новае сёння

кожная хвіліна яшчэ памятаецца, жанчына, што побач, раскрылася ў сне, вось яна — нерухомая, як на фотаздымку, і можна любавацца кожным яе запаволеным уздыхам — як пашыраюцца ноздры, як падымаюцца грудзі

няма нічога ў свеце прыгажэйшага за жанчыну, якая спіць, — за ёю можна назіраць бясконца, пакуль яна, нібыта адчуваючы твой погляд, не прачнецца... размружыць вочы і, яшчэ не ўцяміўшы, што робіць, пачне прыкрываць аголенае ў сне

сорам прачынаецца раней за розум

вось яно, чалавечае, што перамагло ў нас жывёльнае

сорам — першае, што страціць чалавек апошнім

розум — апошняе, што страціць чалавек першым

адзінае, што застанецца чалавеку ад чалавека, — толькі сны; яны будуць належаць нам вечна — нетаропкія сны з учора ў заўтра, няспешныя сны з сёння ў сёння

# *Пчолка*

пляц, лёд, канькі... і раптам — пчала над лёдавай пра-сто-рай...

чым не сюжэт для фільму жахаў? бедная пчолка, чаму ты не спіш зімою? які ідыёт прыдумаў гэтакі абсурдны сюжэт і прымусіў цябе лятаць над пакрытым снегам ды лёдам лугам?

цікава: а ці сумяшчальнае гэта ўвогуле — снег, лёд і пчолы? жывыя пчолы, якія аблётваюць сняжынкі і збіраюць... што збіраюць? што могуць збіраць пчолы нават зімою і нават са сняжынак — мёд, толькі мёд...

стэрэатып спрацоўвае, але

мёд? са сняжынак? не... у такім выпадку і пчолы павінны быць інакшымі, і займацца іншым — няхай папрацуе фантазія ў таго, хто пачаў выдумляць гэтую лухту для дзетак-немаўлятак... пчолы зімой павінны катацца на каньках, на санках — адпачываць, словам, ад летняе працы... як адпачываюць розныя там мурашы, стракозы ды божыя кароўкі...

а чаму б і не? чаму б не адпачыць ім — актыўна, а не спаць поруч з трутнямі да самае вясны...

і тады ўсё будзе лагічна і проста, і ніхто не стане здзіўляцца пчолам зімой, як перасталі мы здзіўляцца з'яўленню сняжынак летам

## *Малёк*

выпнутае, поўнае, як вока, возера моўчкі выцякала ў раку,

моўчкі — так здавалася здалёку, а зблізку возера цурчэла струмянём, які падаў уніз тонкім вадаспадам: вада білася аб камяні на доле, і ейны крык і быў адзіным знакам пра тое, што ўсё вакол яшчэ жыве, нягледзячы на познюю, галадрэвую восень;

я спыніўся ля вадаспадзіку, перад якім знешне спакойная вада раптам набірала адчайную хуткасць, уцягваючы ў сваю плынь нябачныя раней парушынкі і трэсачкі і стараючыся захапіць малька нейкае рыбінкі, што з усіх сваіх малых сілаў супраціўляўся цячэнню, трапятаў воблачкамі плаўнікоў, але не адплываў, а стаяў на месцы;

і тады я вырашыў дапамагчы яму — спалохаць малька і тым дадаць яму сілаў, каб ён адплыў адсюль, каб не ўцягнула яго ў сябе плынь і не скінула з небяспечнае вышыні на камяні... і толькі хацеў зрабіць гэта, як падумаў раптам: а можа, яму акурат так тут і цяпер добра, можа, яму нічога не пагражае і ён у любы момант здольны сам адплыць, можа, ён проста гуляе з плынню і раскашуе ў шчасці існавання

і — змагання...

## *Родная мова*

мама спявала мне песню — не калыханку, а пра — мяцеліцу, што замяла ўсе дарожкі да мілага... так міла было, так соладка слухаць, што спаць зусім не хацелася...

мне чатыры гады, на вуліцы люты — студзёна, завіруха завіхаецца, сцелецца ўздоўж платоў, перамятае іерогліфы сняжынак з усходу на захад і з поўдня на поўнач, на шыбах мяккі аксамітны холад-шэрань шэрых малюнкаў Дзеда Мароза — усё больш экзатычныя: пальмы ды пальмы: можна пахукаць на іх і займець між шырокага лісця акенца ў жыццё, дзе завіруха мяце, замятае ўсе дарожкі дробнымі літаркамі сняжынак...

хвіліна — і акенца маё мутнее, заплывае лядком, і мне зноў робіцца цесна-цесна ў хаце; а ўчора ранкам мяне падвучылі лізнуць халодную клямку: язык мой прыліп да яе, і доўга стаяў я так, пакуль не адважыўся рвануць язык...

ружовая скурка скурчылася на клямцы і пасінела, а рот напоўніўся салёнай крывёй, і шчокі заірдзелі гарачымі слязьмі...

цяпер гарбаты нават не папіць — язык сцяўся ад болю, і песню за мамаю не падпець — балюча б’ецца язык аб зубы: словы маміны патанаюць і патухаюць у галаве,

каб застацца ў памяці маёй назаўсёды

## *Ідзі адзін*

было...

Дантэ паказаць дарогу мне адмовіўся, адаслаў да Вяргілія, а той не захацеў спаткацца са мной, дзвярэй не адчыніў

і я пайшоў адзін, сам абіраючы дарогу, а каб з яе не збіцца, разуўся, і крывавы след стаў мне пазнакай, што блукаю я па крузе...

у другі раз мінуўшы дзверы Дантавы і цераз іх пачуўшы голас Вяргілія, я прыпыніўся і прысеў падумаць: што далей рабіць — куды ісці, як раптам пачуўся голас ува мне: «твой адпачынак — шлях, і ты па ім ідзі... ідзі адзін... і дойдзеш, бо нават кола мае пачатак і канец»

і я пайшоў

мінулі дні, гады, і вось аднойчы, калі сядала сонца на спачын, я ўбачыў, што іду не па сваіх слядах, а новым шляхам, і ён вядзе ўверх...

аблокі прамінуліся, а потым месяц, сонца, і цемра ахінула зрок мой раптам, як і роспач...

і зноў пачуў я голас: «святло тваё вакол, ты толькі не спыняйся, ідзі і ведай, што й цемра мае край...

...ідзі адзін...»

і я пайшоў далей, аб зоркі прыпякаючы ступні і пакідаючы крывавы след, з дарогі каб не збіцца...

...я веру: я вярнуся

# Змест

*У афармленні вокладкі*
*выкарыстаны фрагмент твора Сержука Цімохава*
*з нізкі «Жнівеньскія нацюрморты».*

**16+**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Пятровіч** Барыс

**...Роўна і трошкі ўправа**

*Фрэскі розных гадоў*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алесь Пашкевіч*
Вёрстка *Людмілы Фомчанка*
Карэктура *Алены Спрытніч*
Мастак *Генадзь Мацур*

Падпісана да друку 12.06.2019. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 16,38.
Ул.-выд. арк. 9,22. Наклад 200 ас. Зак. 210.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.